


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 ЛЮТАГА 2002г. № 7/4141 КОШТ 280 РУБ.







# «Мой голас... у веку наступным пачуецца»

**Міхась Стральцоў у родных бярозках на бальшаку пад Сычынам — светлы акорд нашага з ім лета 1985 года.**

**Тады, пакінуўшы на беразе Сожа пад Чэрыкавым маю Лімень, мы ехалі ў ягоны Сычын. Калі пад'язджалі да вёскі, ён папрасіў спыніць машыну. Выйшлі з яе каля гэтых бяроз. Ён стаяў паміж іх, усміхаючыся, абхапіўшы, як сястрычак, за бялюткія ў сонечнай чысціні ствалы, сам гэтакі светлы ў белай сарочцы пад гальштукам, сонечны, і я проста не мог не схапіцца за фотаапарат. Гляджу цяпер на фотаздымак і бачу тую дарогу, тыя бярозы, тыя дні, як быццам нічым не азмрочаныя, і яшчэ, зусім нечакана, шукшынскага Ягора Пракудзіна, як той абдымае бярозкі перад смерцю. Навошта мне тут той Ягор? А матыў псіхалагічна блізкі да нашага, стральцоўскага. Ну, вядома, пачуцці Стральцова былі іншыя, у іх не было той кіношнай узнёсласці, таго драматургічнага надрыву, была ціхая, аж да вусцішнасці, засяроджанасць на шчымліва сваім, размова з родным без слоў, сэрцам і блізкай бяды мы тады не адчувалі. Перайшлі на другі бок дарогі — зноў я шчоўкнуў фотаапаратам, зноў ля бяроз, ужо іншых, здзіўлены тым, што Міхась і тут аж ззяў той самай радасцю. Звычайна яго ўсмешка была нядоўгая, яе заўсёды пільнавала драбінка горычы, падсцерагаў цень смутку — можа, таму, што ён пастаянна пра нешта думаў, а ў думках усяго хапала — і светлага, і сумнага. Тое мяне тады і здзівіла — доўгая шчаслівая ўсмешка.**

*(Працяг на стар. 6 — 7)*



# КОЛА ДЗЁН

***Надзея, кажуць, памірае апошняй. Пакуль ёсць надзея, чалавек (і народ) — жыве. Без надзеі ж застаецца адно — чаканне. Для чалавека (і народа), выхаванага савецкай таталітарнай сістэмай, пазбаўленага ініцыятывы, адвучанага ад мэтаімкнёнай дзейнасці, зацыкленага на стэрэатыпах бясплатнасці і ўсёдаступнасці, ва ўмовах, калі трэба думаць і дзейнічаць самому, чаканне — гэта стан душы, лад жыцця. У стане чакання сёння — ці не ўся Беларусь. Калгаснікі жывуць у чаканні мізэрных заробкаў і з'яўлення новых ратоўчых старшынь-дваццацітысячнікаў. Пенсіянеры — у чаканні пенсій. Рабочыя — падвышкі заробкаў і больш-менш пэўнай стабільнасці цэн. Моладзь — у чаканні перамен, што высвецяць і забяспечаць ёй прыстойную будучыню. Інтэлігенцыя — у чаканні цуду, які верне ёй ранейшы статус запатрабаванасці і пашанотнасці ў грамадстве. Бізнесоўцы і прадпрымальнікі — у чаканні прыходу сапраўды рынкавых стасункаў і рэгулюючых іх законаў. Палітыкі — у чаканні дапамогі з боку Расіі ці Захаду. Усе мы, кожны з нас — ў чаканні ўчынкаў ад некага, ад іншых...***

***І нават сама наша прырода — у чаканні ці то вясны, ці то працягу зімы, па-лютаўску марознай і завірушнай...***

## МАЎЧАННЕ ТЫДНЯ

Апошнім часам шмат гаворыцца — у сувязі з распрацоўкай і прыняццем новага Закона аб адукацыі — пра рэфармаванне нашай сярэдняй і вышэйшай школы. Гэтаму была прысвечана і нядаўняя прэс-канферэнцыя міністра адукацыі П. Брыгадзіна. Гаварыў прафесар-міністр пра многае: пра школьную пяцідзёнку, абітурыенцкую кампанію, пра грошы, якія павінны самі зарабляць ВНУ і школы, пра ўзаемаадносіны рэлігіі і школы, якасць школьных падручнікаў і г. д. Пра адно амаль не гаварылася — месца беларускай мовы ў сістэме адукацыі. Быццам гэтай, самай набалелай з усіх школьных праблем, наогул не існуе. А між тым... У слаўным нашым горадзе Слуцку, які не без падстаў мог бы прэтэндаваць (і калісь ці не прэтэндаваў!) быць сталіцай Беларусі, з трынаццаці сярэдніх школ толькі адна беларуская. І гэткая сітуацыя — паўсюль: ад Брэста да Віцебска і ад Гародні да Гомеля. Дык ці не пра гэта трэба найперш гаварыць?

## РЭАЛЬНАСЦЬ ТЫДНЯ

Многія з нас, асабліва старэйшага веку людзі, памятаюць колішні патрыятычны лозунг": Савецкае — значыць, лепшае!" Выхваляліся гэтак, хоць і разумелі, што вельмі часта — зусім не толькі не лепшае, а, наадварот, нашмат горшае. Але ж — "у советских собственная гордость: на буржуев смотрим свысока". І як жа моцна ўелася ў нас гэтая недарэчная звычка! Колькі гадоў мінула, а мы ўсё выхваляемся і выхваляемся. Днямі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны абнадзеіла, што сёлета нашы заробкі вырастуць на 42 працэнты, а з улікам інфляцыі — на 7-8 працэнтаў. А заадно было падкрэслена, што летась у снежні зарплата па народнай гаспадарцы дасягнула ажно 106 долараў, што пакупная вартасць зарплаты вырасла на 27 пунктаў, а сярэдні памер пенсіі — на 36 працэнтаў. І як бы між іншым згадваецца, што за рысай беднасці ўсё яшчэ застаецца 32,4 працэнта насельніцтва. Дык ці ёсць падставы хваліцца поспехамі, калі трэць насельніцтва — за рысай беднасці?

## ІЛЬГОТЫ ТЫДНЯ

У аўторак справаздачу перад прэзідэнтам рабіў урад краіны. Сярод іншага прагучала там такое: колькасць ільготнікаў у Беларусі перавышае колькасць працаздольнага насельніцтва. Гэта стала адной з прычын невыканання леташняга бюджэту. Рознага роду прэферэнцыі юрыдычным асобам абышліся казне ў 270 мільярдаў рублёў, а 560 мільярдаў склалі льготы розным катэгорыям грамадзян. Відавочна, што многія з гэтых ільгот страцілі актуальнасць і эканамічную мэтазгоднасць. Летась быў намер скараціць іх колькасць, але ў выніку яны павялічыліся ў 1,7 раза. І ўжо ў студзені міністэрствы і ведамствы завалілі Мінфін просьбамі аб ільготах, прэферэнцыях, адтэрміноўках і г. д. Ільготы, вядома, не ад добрага жыцця, аднак жа ці той гэта шлях вырашэння праблем?

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Жывём мы (прынамсі, большасць з нас) бедна, па прынцыпе: даношваем, даядаем, дагледжваем (старыя тэлевізары)... Старэе, дажывае веку і многае іншае. Друк гэтага тыдня нагадаў пра жахлівы стан нашага жылля. Капітальны рамонт катастрафічна не паспявае за яго разбурэннем — не хапае сродкаў. Летась, скажам, на гэтыя мэты было выдаткавана ў цэнах 1990 года толькі 22,8 працэнта ад узроўню таго ж 1990-га. А стан жыллёвага фонду працягвае пагаршацца, плошча небяспечнага (для жыхароў) жылля пераваліла за паўмільёна квадратных метраў. Вось і паўтары тут услед за жыхаром туманнага Альбіёна: мой дом — мая крэпасць!..

## КАНСЬЕРЖКІ ТЫДНЯ

У адным з дамоў Гомеля з'явіліся кансьержкі, альбо вахцёркі ў больш звычным для нас разуменні. З ранку да вечара яны наглядаюць тут за грамадскім і санітарным парадкам. Эксперымент (а гэта акурат ён) дае станоўчыя вынікі: пад'езды перасталі быць грамадскімі туалетамі, а кватэрныя крадзяжы наогул спыніліся. Дык мо і мы дажывём-дацягнемся да Еўропы?

## КОНІ ТЫДНЯ

На гэтым тыдні па кітайскім календары пачаўся год каня. З гэтае нагоды конь стаў "героем" многіх газетных публікацый. Самых розных, дарэчы. У тым ліку й тых, што даюць спажыву для роздуму. Накшталт інфармацыі з Мастоўскага раёна. Аб тым, што ў жыхароў Галубоўскага сельсавета сёння ва ўласных стайнях ажно 123 кані — у шмат разоў больш, чым у іншых сельсаветах раёна. Чаму? Аказваецца, пры расфарміраванні калгаса "Чырвоны партызан" вяскоўцам тут далі магчымасць выкупіць коней за нязначны кошт. Ці не шлях гэта і прыклад для іншых?

## "ЗАБАВА" ТЫДНЯ

"Белорусская нива" за мінулую суботу апублікавала (чамусьці пад рубрыкай "Люстэрка забаўнага, цікавага") інфармацыю з Пухавіцкага раёна пра мясцовых доўгажыхароў. У раёне 8 чалавек старэй 100-гадовага ўзросту. Усе яны — жанчыны. Гэтая акалічнасць падкрэслена загалоўкам: "З "дыстанцыі" сышлі мужчыны". Што ж забаўнага ўбачылі ў гэтай акалічнасці аўтар інфармацыі і газета? Агульнавядома, што нашы мужчыны не дажываюць не толькі да 100 гадоў, але й да пенсійных 60-ці. І такая агульнавядомая прычына гэтага — п'янства, наступствы алкагалізму. Зрэшты, што да 100-гадовых мужчын, дык, зноў жа не сакрэт, занадта многіх іх равеснікаў забрала ў маладыя і сталыя гады вайна з фашызмам, якая крывавым, вынішчальным катком прайшлася па нашай зямлі. Не ўсё, зусім не ўсё цікава для забавы...

ВЫСТАВЫ

# Чытайце беларускае!

12 лютага ў Нацыянальным выставачным цэнтры "БелЭКСПА" адкрылася Беларуская кніжная выстава-кірмаш, арганізаваная Міністэрствам інфармацыі і грамадскім аб'яднаннем "Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў".

Амаль 300 удзельнікаў гэтага мерапрыемства (сярод іх не толькі дзяржаўныя, але і прыватныя выдавецтвы) выставілі ўзоры сваёй працы. Гэта фундаментальныя навуковыя выданні па гісторыі і культуры Беларусі, манаграфіі, фотаальбомы, кнігі па мастацтве, самыя разнастайныя слоўнікі і энцыклапедычныя даведнікі. І, натуральна, — мастацкая літаратура, у тым ліку дзіцячая. Словам, спектр экспануемай друкаванай прадукцыі — самы шырокі. Акрамя беларускіх кніжных бізнесоўцаў, самы чынны ўдзел у выставе-кірмашы бяруць і выдаўцы з Расіі, Украіны, Францыі, Германіі.

Як засведчыў у дзень адкрыцця выставы першы намеснік міністра інфармацыі Беларусі Станіслаў Нічыпаровіч (ён жа і старшыня аргкамітэта), нашы выданні былі шырока прадстаўлены ў экспазіцыі "Лепшыя кнігі" ў Франкфурце-на-Майне, а беларускія кнігавыдаўцы вярнуліся з гэтай прэстыжнай міжнароднай выставы з дыпломамі. У самы бліжэйшы час яны паўдзельнічаюць у чарговай выставе "Кнігі Расіі". Будзем спадзявацца, не з меншым поспехам.

У наступныя дні ў рамках Беларускай кніжнай выставы прайшлі прэзентацыі новых кніг беларускіх выдавецтваў.

**Наш кар.**





*На здымках: у дзень адкрыцця кніжнага кірмашу.*
*Фота М. ПРУПАСА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Аднаўляюцца даўнія творчыя сувязі паміж літаратарамі Беларусі і Літвы. На старонках дзесятага нумара часопіса "Metai", што выходзіць у Вільні, разам з найноўшымі дасягненнямі сучаснай літоўскай літаратуры, якія прапанаваны ўвазе чытачоў, у рубрыцы "Беларуская проза і паэзія" пабачылі свет празаічныя творы Васіля Быкава, Алеся Жука ў перакладзе Альгімантаса Антанавічуса, а таксама вершаваныя нізкі Генадзя Бураўкіна, Мар'яна Дуксы, Ніла Гілевіча, Алеся Пісьмянкова, Сяргея Законнікава, Васіля Зуёнка, пераклад якіх на літоўскую мову ажыццявіў Уладас Бразюнас. З "Версэтамі" Алеся Разанава аматараў прыгожага пісьменства знаёміць палкая прыхільніца беларускай літаратуры Альма Лапінскене.

**М. Р.**

### Сустрэча з бібліятэкарамі

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава нядаўна сустрэлася з наведвальнікамі курсаў, якія арганізаваны для бібліятэкараў навучальных устаноў рэспублікі, што займаюцца ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Яна расказала пра дзейнасць пісьменніцкай арганізацыі, уласную творчасць, ахвяравала бібліятэкарам кнігі, якія выпусціла летась выдавецтва "Беллітфонд", а таксама публіцыстычны зборнік "Письма к живым", перададзены ў Саюз беларускіх пісьменнікаў Васілём Якавенкам.

**Н. К.**

# У саюзе мастакоў

5 лютага ў Гомелі была ўрачыста адкрыта Карцінная галерэя Гаўрыіла Харытонавіча Вашчанкі. Як зазначыў старшыня БСМ У. Басалыга, "адбыўся значны крок наперад у прапагандзе выяўленчага мастацтва ў рэспубліцы. На Беларусі адчынены сёння толькі тры галерэі, прысвечаныя асобным мастакам, гэта В. Бялыніцкі-Бірулі, П. Масленнікаў, Г. Вашчанка. На жаль, большасць твораў, якія напрацаваны вядомымі беларускімі мастакамі, не бачыць свет, знаходзяцца ў сховішчах і майстэрнях. Але ж асобных музеяў варты таксама і В. Цвірка, і Л. Шчамялёў, і А. Кішчанка і шэраг іншых мастакоў".

БСМ заклапочаны спыненнем працы па выданні вялікага альбома, прысвечанага творчасці мастакоў Беларусі на працягу XX стагоддзя (па выніках выставы "Насустрач трэцяму тысячагоддзю"). Альбом падрыхтаваны да друку, ён мае вялікую колькасць ілюстрацый і тэарэтычныя артыкулы па пытаннях беларускага мастацтва XX стагоддзя. Але для далейшай працы ні Міністэрства культуры, ні БСМ грошай не маюць. БСМ ускладае спадзяванні на падтрымку і дапамогу з боку прэзідэнцкіх фондаў.

У Рызе адбылося адкрыццё выставы скульптуры, падрыхтаванай секцыяй скульптуры БСМ. На адкрыцці ў Рызе прысутнічала дэлегацыя беларускіх скульптараў. Беларускія мастакі былі вельмі цёпла прыняты рыжскімі калегамі, наведвалі музеі, майстэрні, шмат цікавага даведаліся пра формы дзяржаўнай падтрымкі латвійскіх мастакоў. Такі вопыт варты ўвагі ў будзе разгледжаны на пасяджэнні БСМ.

У Палацы мастацтваў пры БСМ адбыліся выставы В. Нямцова, М. Чэпіка, працягваецца праца выставы "Дынастыі", прысвечанай творчай дынастыі Ціхановічаў.

**Н. Ш.**

ІМПРЭЗЫ

# Міхасю Зарэцкаму прысвячаецца

На філалагічным факультэце БДУ прайшлі навуковыя чытанні, прымеркаваныя да 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка Міхася Зарэцкага, імя якога навечна ўпісана ў мартыралог ахвяр сталінскага генацыду. Перад студэнтамі і выкладчыкамі факультэта выступіў даследчык творчасці пісьменніка, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар філалагічных навук Міхась Мушынскі.

У сваім цікавым і змястоўным дакладзе нястомны даследчык гісторыі беларускага прыгожага пісьменства пазнаёміў прысутных са сваёй манаграфіяй «Нескароны талент. Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага", якая сталася ўдалай спробай новага прачытання спадчыны пісьменніка. Ён ахарактарызаваў асноўныя этапы яго грамадзянскага і мастакоўскага сталення, асаблівасці творчай індывідуальнасці, звярнуў увагу на спецыфіку адлюстравання мастаком тагачасных жыццёвых праблем у празаічных і драматургічных творах. Выступоўца засяродзіў сваю ўвагу на актуальнасці праблемы далейшага пераасэнсавання гісторыка-літаратурнага працэсу 20—30-х гадоў, на неабходнасці ўзбагачэння канцэпцыі гісторыка-літаратурнага развіцця новымі тэарэтыка-метадалагічнымі падыходамі і рашэннямі.

М. Мушынскі падзяліўся сваім бачаннем праблем, якія закрануты ў многіх апавяданнях і публіцыстыцы пісьменніка 20-х гадоў, у раманах "Сцежкі-дарожкі" і "Вязьмо", нарысе "Падарожжа на новую зямлю". Усе яны, на думку вучонага, з'яўляюцца па-свойму знакавымі творамі ў беларускай літаратуры і сведчаць пра бясспрэчна гуманістычную пазіцыю М. Зарэцкага, які горача імкнуўся спасцігнуць праўду "новага" часу, выпакутаваную глыбокім роздумам над сутнасцю гістарычнага моманту, над лёсам чалавека ў складаных віхурах жыцця.

Напрыканцы навуковай імпрэзы загадчык кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя прафесар Л. Сінькова і дацэнт кафедры В. Казлова сказалі шмат цёплых і ўдзячных слоў як пра М. Зарэцкага, так і пра даследчыка яго твораў.

**В. М.**

ПРЭМЕРЫ

# У чаканні ідыліі

Відаць, лёсам было наканавана доўгае жыццё першай беларускай оперы В. Дуніна-Марцінкевіча "Сялянка" ("Ідылія"). Чаму п'еса з просценькім сюжэтам увайшла ў гісторыю, ведае кожны беларускі вучань: у далёкім 1852 годзе на сцэне Мінска ўпершыню загаварылі па-беларуску (на "прастамоўным" дыялекце). Зразумела, тагачасныя ўлады такой драматургіі не стрывалі і забаранілі пастаноўку. І вось праз 150 гадоў "Ідылія" ідзе на галоўнай сцэне краіны, збіраючы поўную залу пад дахам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (6—7 лютага прайшлі святочныя паказы спектакля). У тэатры нават існуе выстава лялек-герояў легендарнай оперы, якія зроблены рукамі вядучай актрысы тэатра З. Белахвосцік.

Дзевяць гадоў таму спектакль "Ідылія" паставіў таленавіты рэжысёр Мікалай Пінігін. Ён здолеў не толькі ўзнавіць першую беларускую оперу, маючы на руках адзін лісток з клавіра Станіслава Манюшкі (партытуру "Ідыліі". Скончыў беларускі кампазітар У. Кур'ян), але і паставіў наіўную прыгожую пастараль у стылі першых беларускіх пастановак: з элементамі балета, драматычных дэкламацый, песень, танцаў. Спектакль абвяргаў агульнапрынятае стаўленне да беларускай гісторыі. Там нельга было ўбачыць "быдла", "замілавання" этнаграфічным рыззём і лапцямі. Толькі гайдукі на пачатку дзеяння нагадваюць доўгімі бізунамі пра сялянскую долю, не датыкаючыся да іх спінаў. На першы ж погляд, "Ідылія" — легкадумная, павярхоўная п'еса, так бы мовіць, казачка. Малады шляхцюк Караль Лятальскі (А. Гарбуз) вяртаецца на сялянскую занядбаную Бацькаўшчыну з самага шчаслівага месца на зямлі — Парыжа. Разам са слугою Янам Губачам (В. Манаеў) ён толькі і марыць зноў апынуцца ў Еўропе. Кузіна Лятальскага Юлія (З. Белахвосцік) вырашае правучыць Караля і, пераапрануўшыся ў простую сялянку, зачароўвае яго. Заканы юнак забывае парыжскіх прыгажунь і застаецца на радзіме. Але Пінігін надае літаральна касмічную глыбіню немудрагелістай гісторыі Дуніна-Марцінкевіча. Калі прыглядзецца, то выразна бачыш, што героі "Ідыліі" — усяго толькі вытанчаныя фарфоравыя статуэткі-лялькі, якія вымушаны элегантна круціцца на сподзе старадаўняга каштоўнага куфэрка. Іх воля — ілюзія. І Беларусь, што вялікім блакітным шарам узвышаецца над галовамі лялек-герояў, здаецца, вось-вось міжволі ўзляціць услед за дзіцячымі марамі герояў пра шчасце... але напрыканцы цяжка апускаецца на галовы персанажаў пад урачыстае гучанне паланеза М. Агінскага "Развітанне з Радзімай". Вынаходніцтва мастака Зіновія Марголіна — велізарная канструкцыя глобуса Беларусі. Гэты неабдымны шар нібыта сімвалізуе сувязь нашага этнасу з Сусветам, нібыта кажа кожнаму з нас, што нашыя захапленні і пакуты, мы самі — толькі крупіначкі, пясчынкі сусветнай гармоніі. Безвольныя і легуценныя, ад якіх анічога не залежыць. Таму рухі і жэсты герояў перабольшана тэатральныя: "заведзеныя" персанажы механічна выконваюць свае лялечныя функцыі.

Ці не сімвалічнае вяртанне "Ідыліі" на нашыя сцэнічныя падмосткі менавіта сёння?

**Кацярына РУСАЛЬСКАЯ**



*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВІНШУЕМ!

# У балеце — званні

Маладыя робяцца вядучымі, вядучыя — заслужанымі... Званне заслужанай артысткі Беларусі атрымала нядаўна салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета краіны Жана Лебедзева. Аляксандр Мартынаў, вядомы ў свой час таксама як саліст нашай акадэмічнай харэаграфічнай сцэны, адзначаны за плённую працу ў тэатры педагогам-рэпетытарам. Цяпер ён — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі. Увогуле ж, слынная трупа на чале з Валянцінам Елізар'евым была ў чарговы раз ганараваная ўвагай, цікавасцю, авацыямі, прызнаннем замежнай публікі: кароткія гастролі тэатра прайшлі ў Кітаі.

**С. Б.**

МУЗЫКА

# Першы выхад на сцэну

Апошнім часам значна актывізавалася дзейнасць Гродзенскай абласной філармоніі. З адкрыццём канцэртнай залы "Гродна" і Лядовага палаца пабольшала цікавых падзей, "зорных" імёнаў у рэкламных анонсах. Прыемна і тое, што кіраўніцтва філармоніі разумее шматпрофільнасць філарманічнай працы, і так званыя "касавыя" імпрэзы чаргуюцца з канцэртамі фартэпіяннай, скрыпічнай, харавой ці іншай музыкі, якая не дае фінансавых прыбыткаў.

Як вядома, жывём мы "не хлебам адным", і духоўную карысць высокага мастацтва цяжка пераацаніць, асабліва ў нашы нялёгкія дні. І таму заўсёды радуе з'яўленне на канцэртных афішах не толькі "Машыны часу" ці "Smokies", але і "Класік-Авангарда" ці А. Сікорскага, і, магчыма, у новым годзе завяршаць фестываль "Беларуская музычная восень" у Гродне будуць не "Камерата" і эстрадны аркестр Гродзенскай філармоніі, а, скажам, Дзяржаўны сімфанічны аркестр Беларусі. Толькі гэта ні ў якім разе не намёк на крытыку, гэта проста пажаданне, бо ў сваім жанры заключны вечар фестывалю 2001 года быў цудоўны.

Тым часам, яшчэ адно добрае пачынанне нарадзілася нядаўна на сцэне канцэртнай залы "Гродна". Адбыўся канцэрт інструментальнай музыкі з удзелам навучэнцаў Гродзенскага дзяржаўнага музычнага вучылішча.

У першым аддзяленні выконваліся творы для ўдарных. На жаль, для многіх аматараў музыкі ўяўленне пра ўдарныя інструменты зводзіцца ў асноўным да эстраднай устаноўкі, барабана, талерак, ну, можа, яшчэ бубна. Між тым, гэта асобны своеасаблівы свет рытмаў і тэмбраў, цікавы і разнастайны, часам нават экзатычны. Выкладчык вучылішча Рыма Урублеўская і яе выхаванцы на добрую зайздрасць калегам выставілі на сцэну ўвесь свой "арсенал". Слухачы мелі магчымасць параўнаць таямнічы рокат літаўраў, і бліскучы каларыт ксілафона, і чароўныя фарбы вібрафона і шмат што іншае. Упэўнены, што некаторыя інструменты для многіх у зале былі нечаканым адкрыццём, як і тое, напрыклад, што п'еса ў джазавым стылі на вібрафоне гучыць ніколькі не горш, чым на раялі.

Падкупляла таксама і апантанасць маладых выканаўцаў — гадаванцаў вучылішча. У вачах многіх свяцілася шчырая захопленасць і любоў да ўсіх гэтых тэмплблокаў, маракасаў і тамбурынаў. Сапраўдныя кульмінацыяй "бенефіса" ўдарнікаў было выступленне ансамбля ўдарных інструментаў пад кіраўніцтвам Р. Урублеўскай, якая выканала чатыры народныя мелодыі ў апрацоўцы М. Пякарскага, прадэманстраваўшы не толькі рытмаэмбравае багацце аранжыроўкі (адчувалася рука вялікага майстра), але і прыемныя для ўсяго толькі навучэнцаў зладжанасць і прафесіяналізм.

У другім аддзяленні канцэрта іграў эстрадны аркестр пад кіраўніцтвам Льва Петрушака. І калі клас ударных інструментаў існуе ў вучылішчы ўжо даўно і мае традыцыі і дасягненні, то названаму аркестру толькі тры месяцы. Аднак за гэты кароткі перыяд калектыў здолеў падрыхтаваць хаця і невялічкую, але цікавую праграму. А "суд слухачоў" быў даволі сур'ёзны і кампетэнтны, бо ў зале знаходзіліся амаль усе музыканты таксама нядаўна створанага эстраднага аркестра філармоніі на чале з дырыжорам: яны прыйшлі паслухаць, як самі жартавалі ў кулуарах, канкурэнтаў.

Менавіта жартавалі, бо якія ж тут канкурэнты! Тое хутчэй маладшыя сябры, ці нават браты. Браты па жанры, як кажуць, па зброі і, можна сказаць, па крыві. Бо ў "музычных жылах" пераважнай большасці старэйшых братоў з філарманічнага аркестра, уключаючы і мастацкага кіраўніка Б. Мягкова, цячэ агульная творчая кроў, і Гродзенскае музычнае вучылішча — іх родны дом, а выкладчыкі (у тым ліку і Л. Петрушак) — бацькі. Напрыклад, з пяці музыкантаў групы саксафонаў — тры былыя выпускнікі і адзін цяперашні навучэнец вучылішча; у групе трамбонаў — тры выпускнікі і г.д. Таму адзіным, на мой погляд, ці, прынамсі, галоўным пачуццём ва ўсіх павінна было быць пачуццё радасці за маладых калег. За тое, што ёсць такі аркестр, які дае магчымасць навучэнцам далучыцца яшчэ да адной плыні мастацтва, што гэтае трохмесячнае "немаўля" ужо робіць першыя крокі, што юныя музыканты не баяцца ўстаць і сыграць сола. Няхай сабе сціпла і не так моцным і яркім гукам, як іх выкладчык, саліст філарманічнага аркестра У. Драчан — дык у яго ж за плячамі акадэмія музыкі! У кожным разе, для вучнёўскага калектыву рэжучых вуха фальшывых акордаў ды "кіксаў" было даволі мала, і Глен Мілер з Дзюкам Элінгтанам не надта б пакрыўдзіліся, слухаючы свае творы, з густам аранжаваныя і, я б дадаў, адаптаваныя для пачынаючых джазменаў, Л. Петрушаком.

Вось такое добрае пачынанне адбылося марозным вечарам на сцэне канцэртнай залы "Гродна". Пачынанне, таму што паводле дамоўленасці з кіраўніцтвам філармоніі выступленні навучэнцаў Гродзенскага дзяржаўнага музычнага вучылішча, раней выпадковыя, цяпер будуць рэгулярнымі. Добрае, таму што такія выступленні не толькі актывізуюць канцэртнае жыццё горада, але і дадуць магчымасць надзвычай карыснай творчай практыкі для маладых музыкантаў. І хто ведае: можа, праз некаторы час ужо сталыя, а, магчыма, і вядомыя выканаўцы, яны з настальгічным пачуццём будуць успамінаць тое незабыўнае ўзнёслае хваляванне, якім суправаджаецца першы выхад на сцэну.

І ў заключэнне, перафразуючы славутага паэта, хочацца сказаць: калі на філарманічнай сцэне іграюць навучэнцы Гродзенскага дзяржаўнага музычнага вучылішча, значыць гэта камусьці патрэбна. І напэўна нават не "камусьці", а многім, бо першы канцэрт прайшоў з аншлагам (!). Спадзяюся, гэтак будзе і далей.

А ў бліжэйшых планах — выступленне жаночага акадэмічнага хору, уладальніка Гран-пры Рэспубліканскага конкурсу харавых і акапэльных калектываў. Хорам кіруе лаўрэат прэміі Гродзенскага аблвыканкама імя А. І. Дубко "За творчыя дасягненні ў галіне культуры і мастацтва" ў намінацыі "Лепшы выкладчык года" Ларыса Іконнікава.

Што ж, добраму пачынанню — добры шлях!

**Аляксей САЛАДУХА,**
**дырэктар Гродзенскага**
**дзяржаўнага музычнага**
**вучылішча**

АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА...*

## Ззянне палескіх зор

Пінскаму народнаму ансамблю песні і танца "Палескія зоры" споўнілася 25 гадоў. Арганізатар і нязменны кіраўнік калектыву — Міхаіл Цурканаў. Рэпертуар "Палескіх зор" складаюць беларускія, рускія, украінскія народныя песні, танцы, карагоды, прыпеўкі прафесійных і самадзейных паэтаў і кампазітараў Палескага краю. Ансамбль — шматразовы пераможца разнастайных фестываляў і конкурсаў, дыпламант тэлефестываляў. Ансамбль гастраляваў у Польшчы, Германії, Югаславіі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Румыніі, Галандыі, Бельгіі, Фінляндыі, Іспаніі. Рашэннем міжнароднай арганізацыі па народнай творчасці ўвайшоў у дзесятку лепшых ансамбляў Еўропы. Летась "Палескія зоры" пабывалі з гастрольным турам у Францыі.

**Аксана КЛУНІНА**

## Мастак з глыбінкі

У выставачнай зале Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра адкрываецца першая персанальная выстава самадзейнага мастака з Івацэвіцкага раёна Анатоля Галушко. У экспазіцыі — больш за чатыры дзесяткі прац майстра з сельскай глыбінкі... Вось ужо дваццаць гадоў Анатоль прыкаваны да ложка, але здолеў вытрываць фізічныя і душэўныя пакуты, насуперак усяму заняўся жывапісам і стварыў каля сотні карцін, галоўным чынам пейзажаў. За ўдзел у конкурсе "Горад майстроў" на X міжнародным фестывалі "Славянскі базар" Анатоль узнагароджаны дыпломам першай ступені.

**Наш кар.**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## З'явілася песня

Прыемную вестку напярэдадні праваслаўных Каляд атрымаў з Віцебска талачынскі паэт Алесь Мазур: кампазітар Мікалай Галаўнёў паведаміў, што на словы паэтавага верша "Святая крыніца", апублікаванага ў "Народнай газеце", ён стварыў песню з аднайменным назвам. Песня некалькі разоў выконвалася на абласным тэлебачанні, спадабалася слухачам. Кампазітар запрасіў паэта на свой творчы вечар, які ў хуткім часе адбудзецца ў Віцебскім гарадскім цэнтры культуры. На вечары прагучыць і "Святая крыніца".

Цяпер Мікалай Галаўнёў мяркуе стварыць песню "Чароўная Света" на паэтычны тэкст Алеся Мазура.

## Спяваюць ветэраны

Пятнаццацігадовы юбілей адзначыў народны клуб "Ветэран" пры Талачынскім гарадскім Доме культуры. Гонарам клуба з'яўляецца хор, у якім зараз 38 спевакоў. Шчырыя песні ў выкананні ветэранаў заўсёды хвалююць слухачоў. Не дзіва, што гэты самадзейны калектыў з'яўляецца лаўрэатам рэспубліканскага фестывалю "Беларусь — мая песня".

**Антон БЯРОЗКІН**

*МАГІЛЁЎШЧЫНА...*

## Стаў хор народным

Фальклорна-этнаграфічны гурт "Чабатуха" існуе пры Прусінскім Доме культуры Касцюковіцкага раёна. Стварыла яго спявачка Тамара Кірпічэнка. Калектыў выконвае толькі беларускія песні. Робіць гэта цудоўна. Нездарма хору прысвоена званне народнага.

## Памяці земляка

У Касцюковіцкім краязнаўчым музеі больш за месяц будзе праходзіць выстава работ мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Антона Бархаткова, прымеркаваная да 85-годдзя ягонага нараджэння. На выставе прадстаўлена 18 карцін, якія аўтар стварыў у розныя гады жыцця. Усе работы Бархаткова — з музейнага фонду.

## Вучні школу не падводзяць

Касцюковіцкая дзіцячая школа мастацтваў адметная сваімі выхаванцамі. На чацвёртым рэспубліканскім конкурсе дзіцячай творчасці дыпломаў удастоены Дзіма Бухалоўцаў, Юля Горбікава, Насця Баранава. З поспехам удзельнічалі ў мастацкім конкурсе з нагоды 15-годдзя чарнобыльскай катастрофы Вася Нікіценка і Саша Гецаў. А Арцём Захарэнка браў удзел у конкурсе дзіцячага малюнка ў Індыі і атрымаў сярэбраны медаль.

**Уладзімір КАПАЕЎ**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Галерэя Вашчанкі

У Гомелі адкрылася карцінная галерэя Г. Вашчанкі. Нарадзіўся Гаўрыіл Харытонавіч у палескай глыбінцы, у вёсцы Чыкалавічы Брагінскага раёна, адсюль выйшаў на шырокі абсяг вялікага мастацтва. Стаў народным мастаком Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі рэспублікі, акадэмікам жывапісу. Дзесяткі сваіх работ падараваў Гомелю. На адкрыцці галерэі, у стварэнні якой вялікая заслуга абласнога і гарадскога выканкамаў, прыйшлі прыхільнікі таленту Вашчанкі, прыехалі яго сябры і паплечнікі з Мінска. Цёпла віталі мастака старшыня аблвыканкама А. Якабсон, старшыня гарвыканкама Л. Барабанаў, першы намеснік міністра культуры У. Рылатка, старшыня Беларускага саюза мастакоў У. Басалыга. Як адзначыла дырэктар галерэі, мастачка Святлана Курашова, акрамя пастаяннай экспазіцыі палотнаў Вашчанкі, тут будуць наладжвацца выставы як сталых майстроў, так і маладых талентаў.

## Зборнік акцёра

Аляксей Бычкоў — вядучы акцёр абласнога драматычнага тэатра. Ён добра іграе на гітары, спявае, піша музыку. Мае яшчэ адну творчую прыхільнасць: выпусціў зборнік п'ес "Цудоўная казка — прыгожая песня". Прадмову да яе напісаў доктар філалагічных навук, прафесар Гомельскага дзяржуніверсітэта Іван Штэйнер. Прэзентацыя зборніка Аляксея Бычкова адбылася ў літаратурным салоне "Сустрэчы на Замкавай", які працуе пры цэнтральнай гарадской бібліятэцы Гомеля.

## Швед з беларускай душой

Шведскі жывапісец Ян Кузміцкі мае свой непаўторны погляд на мастацтва, свой філасофскі падыход да адлюстравання жыцця. Палатно Кузміцкага "Разарваныя душы" дало назву ягонай персанальнай выставе ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Мастак цяпер жыве ў Швецыі, але сувязяў з Беларуссю, з Гомелем не губляе. У 1999 годзе арганізаваў тут сваю першую выставу. А летась прыняў удзел у рэспубліканскім пленэры разьбяроў па дрэве, які праходзіў у Гомелі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## Працяг літаратурнага знаёмства

**Прыемную навіну прынесла з Бухарэста пошта. Важкі пакет засведчыў, што беларуска-румынскае літаратурнае знаёмства працягваецца, а некалі перапыненыя пісьменніцкія кантакты пакрысе аднаўляюцца, набываюць другое дыханне. Усё больш прыхільнікаў беларускага мастацкага слова знаходзіцца ў Румыніі. Асабліва зачароўвае перакладчыкаў наша паэзія.**

**Ці не першай ластаўкай нанава аднаўляемых літаратурных стасункаў было некалькі вершаваных падборак Сяргея Законнікава ў перакладзе з арыгінала вядомай румынскай паэтэсы Пасіянарыі Стайчэску. Пасля ў тамашнім перыядычным друку з'яўляліся творы Алеся Петрашкевіча, Васіля Быкава, Вольгі Іпатавай, Максіма Валошкі, Святланы Алексіевіч. Нарэшце з дobрага спрыяння Саюза пісьменнікаў Румыніі і Пасольства Беларусі галоўны літаратурны штотыднёвік "Лучафэрул" адзін са сваіх мінулагодніх нумароў амаль цалкам прысвяціў беларускай літаратуры. Галоўную арганізуючую і перакладчыцкую ролю ўзяла тады на сябе зноў жа Пасіянарыя Стайчэску. Дарэчы, менавіта яна пераклала на румынскую мову і таксама з арыгінала кніжку казак Максіма Валошкі "Прыгоды лісіцка-карунчыка".**

**Не здрадзіла сваёй прыхільнасці да беларускай літаратуры Пасіянарыя Стайчэску і на гэты раз. Вядомая паэтэса, перакладчыца і дзіцячая пісьменніца звярнулася да жаночай беларускай паэзіі. Яна пераствaрыла вершы Галіны Булыкі, Зінаіды Дудзюк і Людмілы Рублеўскай. Гэтая падборка пад агульным загалоўкам "Жаночая лірыка з Рэспублікі Беларусь" змешчана ў нумары 1-2 за 2001 год культуралагічнага часопіса "Архіпелаг", які выдаецца гуманістычнай асацыяцыяй "Трыяда", выдавецтва "Лёс" з дапамогай муніцыпальнага савета горада Дзева. Да перакладаў годна спрычынілася і даўняя спрыяльніца беларускіх спраў наша зямлячка, якая даўно і стала жыве ў Румыніі, Ларыса Маня.**

**Да слова, у адпаведнасці з ранейшай дамоўленасцю цяпер рыхтуецца спецыяльны нумар газеты "Літаратура і мастацтва", прысвечаны румынскай літаратуры — у адказ на аналагічны беларускі нумар бухарэсцкага тыднёвіка "Лучафэрул".**

**Анатоль БУТЭВІЧ**

## "Мастацтва", № 12

**Апошні ў мінулым годзе нумар часопіса "Мастацтва" адкрываецца матэрыяламі, што маюць дачыненне да 10-гадовага юбілею "Беларускай капэлы" і, зразумела, працы яе кіраўніка В.Скорабагатава: "Адкрывальнік нашай Троі" В. Вяткевіча, "Ад зямлі невядомай — да зямлі запаветнай" Ганны Каржанеўскай, "І самі не ўсведамляюць значнасці зробленага..." В. Сёмухі (запісала Т. Мушынская), "Шырокая панарама музычнай культуры" В. Дадзіёмавай. Сам В. Скорабагатаў выступае з развагамі "Прагал у інфраструктуры", у якіх засяроджвае ўвагу на яшчэ больш ашчаднае стаўленне да нацыянальнай музычнай спадчыны, вывучэнне яе і прапаганду. Артыкулу А. Сабалеўскага "Тэатральнае спасціжэнне Караткевіча" папярэднічае такі невялікі ўступ: "Уладзімір Караткевіч належыць не толькі літаратуры. Яго творы ўзбагачаюць усю нашу духоўную культуру, у тым ліку і сцэнічнае мастацтва. Тэатры з імі ўжо неаднойчы сустракаліся, і, упэўнены, такіх сустрэч з часам будзе ўсё больш і больш. Тут расповед пойдзе пра нядаўняе спасціжэнне трох празаічных твораў класіка на розных падмостках і ў розных відах тэатральнага мастацтва". Даведацца пра выстаўку габелена, што праходзіла ў залах Віцебскага літаратурнага музея як адна з культурных акцый мерапрыемстваў, што адбываліся падчас "Славянскага базару" ў Віцебску, можна даведацца з разваг В. Осіпава "Знакі і колеры роднай зямлі". "Уладзімір Савіцкі: "Людзі мы ці не людзі?" — гутарка А. Ахметшына з рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля па п'есе А. Астроўскага "Свае людзі — паладзім" у купалаўскім тэатры. Можна пазнаёміцца таксама з артыкуламі Н. Сцяжко "Рэзервы тэлеэфіру", В. Нячай "Гогаль, Башмачкін, Манаеў...", Н. Бекус-Ганчаровай "Фатаграфія і штодзённасць", М. Цыбульскага "Пад флёрам міфаў вялікай эпохі", Н. Высоцкай "Украінская ікона XV — XVIII стагоддзяў у Беларусі", А. Лакоткі "Загадкі жалезных крыжоў". Прадстаўлены рубрыкі "Дыскаграфія", "Хроніка мастацкага жыцця".**

ВЕЧАРЫНЫ

# Цудоўны свет Аляксандры

У гісторыі культуры кожнага народа ёсць мастакі, якія ўвасабляюць у сваёй творчасці найбольш каштоўнае і запаветнае, што было назапашана стагоддзямі, усё тое, што ў найбольшай ступені адпавядае спрадвечным памкненням іх народаў. Дантэ і Сервантэс, Шэкспір і Гётэ, Пушкін і Міцкевіч, Шаўчэнка і Купала стварылі бессмяротныя творы пра свае народы і менавіта таму іх творчасць стала здабыткам усяго чалавецтва. У румынаў і малдаван адным з такіх мастакоў з'яўляецца паэт Васіле Александры. Творчая апрацоўка мясцовага фальклору, гнуткая і меладычная дыялектная мова, увага да паваротных момантаў гісторыі і адлюстраванне багатага ўнутранага свету свайго народа, адкрылі зусім новую літаратурную эпоху ў адносінах да таго, што было створана раней на румынскай мове. Паэзія Васіле Александры стала рашучым і дзейсным сродкам у барацьбе за нацыянальную самасвядомасць і сацыяльную справядлівасць. Асабіста мне Васіле Александры дарагі тым, што ён запісаў, апрацаваў і ў 1849 г. надрукаваў у газеце "Букавіна", якая выдавалася ў Чарноўцах, гераічную баладу гайдуцкага цыкла "Кадрану". Дзякуючы гэтай баладзе я адкрыў для сябе духоўны свет малдаван і з задавальненнем пераствaрыў яе на беларускай мове. Балада цалкам надрукавана ў газеце "Голас Радзімы" 9 студзеня г. г.

Не ўсё, што напісаў паэт, вытрымала выпрабаванне часам. "Дрэвы пладаносяць фруктамі і добрымі, і дрэннымі, але ніхто яго не ссякае. Усё гнілое ападае, асыпаецца і знікае, а прыгожыя плады застаюцца на галінках", — пісаў Александры. 50 гадоў ён аддаў служэнню свайму народу і музам. І народ не забыў яго. Яго чытаюць, вывучаюць. Ім ганарацца. Не забылі яго і свет, пра што сведчыць вечарына, прысвечаная 180-годдзю з дня нараджэння класіка румынскай і малдаўскай літаратуры, якая адбылася пад гасцінным дахам Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ў канцы студзеня. У вечары, які вёў я, прынялі ўдзел аташэ па культуры Пасольства Малдовы ў Беларусі Сержыу Тэадор, народныя артысты Беларусі Марыя Захарэвіч і Генадзь Гарбук, цымбаліст Белдзяржфілармоніі Аляксандр Лявончык, студэнтка 4-га курса вакальнага аддзялення Беларускай акадэміі музыкі Наталля Аўчыннікава, канцэртмайстар Людміла Матукоўская, актывісты малдаўскай дыяспары г. Мінска на чале з Антанінай Валько, а таксама навучэнцы Мінскага педагагічнага каледжа № 1 са сваёю выкладчыцай шчырай беларускай Валянцінай Карлаўнай Раманцэвіч. На вечарыне гучалі вершы Васіле Александры, цудоўна перакладзеныя на беларускую мову Васілём Макарэвічам, малдаўскія і беларускія песні і танцы. Свой верш, прысвечаны Васіле Александры, прачытаў намеснік старшыні малдаўскай дыяспары Георгій Пушкаш:

*В распевах птиц, в дурмане трав,*
*В могучем шелесте дубрав,*
*В лучах проснувшейся зари*
*Чудесный мир Александри.*

*Нежны, изящны и легки —*
*Как майской розы лепестки,*
*Пленяют образы певца,*
*Людские души и сердца.*

*Рождает магия пера*
*Картины счастья и добра.*
*Наполнись ими и замри:*
*Ведь это мир Александри!*

**Уладзімір СКАРЫНКІН,**
**старшыня Таварыства "Беларусь — Малдова"**

# Прэзентацыя "сціпласці"

"Ну вось, мяне заўжды прадстаўляюць невядома кім", сказаў Адам Глобус пасля таго, як прадстаўнік "Беларускага калегіума" даў слова "мастаку, паэту, мастацтвазнаўцу, пісьменніку і выдаўцу". Так распачалася сустрэча названай асобы з прыхільнікамі ягонай творчасці ў актавай зале бібліятэкі імя Янкі Купалы. Вечарына ладзілася з нагоды выхаду новай кнігі глобусаўскіх апавяданняў з цяжка запамінальнай назвай "Браслаўская стыгмата". Выступленню аўтара, натуральна, папярэднічала раздача кніжак. Разам з навінкай патэнцыйныя чытачы маглі атрымаць не толькі ўжо "старыя" глобусаўскія "Кантамінацыі", але і быкаўскі зборнік "Пахаджане". Апошняе, пагадзіцеся, дзіўна, паколькі нагода для сустрэчы ўсё ж прэзентацыя канкрэтнай кнігі канкрэтнага аўтара.

"Сёння я буду мастаком, які пачынае быць паэтам", — прадэкляраваў Глобус і напачатку прадэманстраваў сваю карціну, на якой, як уяўлялася для большасці, было намалявана невядома што. Нават пасля тлумачэння аўтарам сэнсу твора гледачы зноў пыталіся пра "змест" палатна. У выніку, як гэта часцяком бывае, уласна пра новую кнігу з сімпатычным афармленнем і выдадзеную ў зручным "кішэнным" фармаце не было сказана ніводнага сказа. Пасля таго, як Глобус папрасіў слухачоў дасылаць яму пытанні, прэзентацыя ператварылася ў прэсавую канферэнцыю. "Ёсць людзі, якія здольныя даць адказы на ўсе пытанні. Я не з іх», — зазначыў мастак-пісьменнік, пасля таго як некалькі дзесяткаў слухачоў атрымалі паперыцы на закранутую імі тэму. Напэўна, спадар Адам меў на ўвазе свой мінулы публічны выступ, калі абяцаў адказаць на ўсе пытанні цікаўных у друку і ўрэшце не спраўдзіў абяцанае. Гэтым разам усё выглядала прыблізна так:

— Чым ганарыцеся са сваёй выдавецкай дзейнасці?

— Мы сапраўды мала ўвагі надаём беларускай літаратуры. Ганаруся публікацыяй апошняй кнігі свайго бацькі Вячаслава Адамчыка. Спадзяюся, што буду ганарыцца зборам твораў Анатоля Сыса. (Заўважым, што апошняе— не ініцыятыва Глобуса. Мастак Алесь Пушкін збіраецца зарабіць на гэтую карысную справу грошы ў Амерыцы. Выдавец жа Глобус займецца выданнем фаліянта.)

— Столькі напісана ў літаратуры! Што вы хочаце да гэтага дадаць? (Пытанне аналагічнае банальнаму "Вашы творчыя планы)".

— Пра бацьку я ўжо напісаў, хачу напісаць пра маці

— Ці будзе трэцяя частка "Дамавікамерона" ?

— Будзе і трэцяя і чацвёртая. Трэцяя нават ужо ёсць. Толькі не выдадзеная пакуль.

— Вы такі добры, сціплы, мілы. Чаму ж пішаце усялякія жудасці?

— Я не добры, я куру... і г.д, і т.п.

Застаецца дадаць, што сярод слухачоў гэтага "сціплага" мужчыны гэтым разам былі заўважаны пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Вітаўт Чаропка, перакладчык Лявон Баршчэўскі, бард Зміцер Бартосік.

**Вадзім ДОЎНАР**

АДГАЛОСКІ

### Начальніку галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь КАРЭНДУ Івану Арсенцьевічу

Ад члена Саюза пісьменнікаў Беларусі, інваліда ВАВ 2-й групы ПРЫХОДЗЬКІ Пятра Фёдаравіча
220030, Мінск, Ульянаўская, 29

Добры дзень, паважаны Іван Арсенцьевіч!

З вялікай цікавасцю прачытаў я ў газеце "Рэспубліка" Ваша інтэрв'ю, якое Вы давалі карэспандэнту гэтай газеты Тамары Абакумоўскай. Сама назва матэрыялу: "Ідэалагічны плюралізм у нашай краіне — рэальная з'ява" звярнула, перш за ўсё, на сябе ўвагу. Шчыра скажу — прачытаўшы ўважліва інтэрв'ю, я проста парадаваўся, што ў кіруючых органах нашай улады ёсць такія людзі, як Вы, ведаючыя вершы краіны, яе людзей, родную матчыну мову, літаратуру. І гэта, відаць, невыпадкова. Я, да прыкладу, даўно ведаю Вас асабіста як добрага паэта, сябра нашага беларускага Саюза пісьменнікаў, чытаў Вашы творы ў кнігах і ў перыёдыцы. Вельмі спадабаўся мне і той верш пра родныя мясціны, якім Вы закончвалі свае адказы на пытанні карэспандэнта. Але ўсё-ткі штосьці не было закранута ў Вашай размове з журналісткай з таго, што сёння хвалюе ўсю нашу пісьменніцкую арганізацыю, членам якой з'яўляемся мы з Вамі.

Вы, напэўна, і самі чыталі ў апошніх нумарах газеты "Літаратура і мастацтва" артыкулы старшыні саюза Вольгі Міхайлаўны Іпатавай. З якім болем у сэрцы і трывогай яна піша аб тым, у якім гаротным становішчы знаходзіцца не толькі апарат саюза, работнікам якога паўгода не выплачваюць як бюджэтнікам зарплату, а і ўся пісьменніцкая арганізацыя. У яе чамусьці няма цяпер той клінікі, да якой былі прымацаваны дзесяткі творчых работнікаў — пісьменнікаў, кінематаграфістаў. Праўленне саюза па сутнасці пазбаўлена свайго роднага кутка — Дома літаратара, які быў пабудаваны за сродкі Белліtфонду. Многія пісьменнікі не маюць ніякай дапамогі матэрыяльнай ад свайго літаратурнага фонду, членамі якога з'яўляюцца: нават не аплачваюцца бюлетэні па хваробе. Вось да чаго дажылі мы. Пра гэта вельмі цяжка і балюча гаварыць, можна сказаць нават — сорамна ва ўсім гэтым прызнавацца.

"Чаго ж Вы хочаце ад мяне?" — запытаецце Вы. Скажу шчыра — мне асабіста ад Вас і ад вышэйшай улады нічога не трэба. Мне як інваліду вайны другой групы, палкоўніку ў адстаўцы, члену Саюза пісьменнікаў з 1947 года выплачваецца адпаведная пенсія, я атрымліваю невялікія ганарары за надрукаваныя вершы, артыкулы, у прыватнасці, за кнігу "Позняя восень", якую змагло выпусціць у свет выдавецтва "Мастацкая літаратура" роўна праз шэсць гадоў пасля здачы рукапісу ў рэдакцыю паэзіі таго ж выдавецтва. У гэтым, дзякуй Богу, дапамог мне фонд культуры, які існуе пры Прэзідэнце Рэспублікі. Так што я асабіста не магу скардзіцца на свой лёс і сваё матэрыяльнае становішча. Але мяне як чалавека, былога франтавіка, які прайшоў праз усю вайну ад пачатку да канца, быў двойчы паранены і кантужаны, на шчасце застаўся ў жывых, сёння, на схіле веку, на восемдзесят другім годзе жыцця, хвалюе больш за ўсё лёс і стан нашага Саюза пісьменнікаў. Ці ж нельга зрабіць так, каб ён не быў пазбаўлены свайго роднага кутка — Дома літаратара, сваёй паліклінікі, якую чамусьці аднялі ў яго, каб Беларускі літфонд, як раней, мог утрымліваць свой Дом творчасці ў раёне Іслачы, аказваць матэрыяльную дапамогу сваім членам? Я ўжо не кажу аб выданні кніг мастацкай літаратуры, падтрымцы літаратурных выданняў, часопісаў, нашай літаратуры наогул. А колькі ў нас таленавітых маладых паэтаў, празаікаў, драматургаў! Чытаеш іх творы — проста радуешся за іх усёй душой, усім сэрцам. Дапамагаць ва ўсім нашай шматлікай пісьменніцкай арганізацыі, як і іншым творчым саюзам, нягледзячы на ўсе тыя цяжкасці, якія ёсць у нас ва ўсіх, гэтага патрабуе наша сумленне, наш святы абавязак перад Радзімай, перад сваім народам. Гэта гаворыць Вам былы салдат, які сваёй крывёй заваёўваў перамогу над злейшым ворагам чалавецтва — фашызмам, каб ён не змог ніколі паўтарыцца ў гісторыі чалавецтва. Выбачайце, я ўжо стаў гаварыць агульныя словамі. Вельмі прашу Вас канкрэтна дапамагчы чым можна нашаму Саюзу беларускіх пісьменнікаў, яго кіраўніцтву, ды і ўсім творцам мастацкага слова ў вырашэнні самых хвалюючых, надзённых пытанняў іх жыцця і працы.

Выбачайце за клопаты, якія прычыняю Вашай асобе. Шчыра, сардэчна жадаю Вам і ўсёй вашай адміністрацыі добрага здароўя, радасці ў жыцці, поспехаў у працы.

З глыбокай павагай,

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

*27 студзеня 2002 г.*
*г. Мінск*

*Фелікс ШКІРМАНКОЎ*

# Вандроўка ў дзяцінства

***Апошнім часам усё часцей вяртаюся ў далёкія гады дзяцінства і з сумам заўважаю, што шмат з прамінулага беззваротна страчана ў памяці. Таму ашчадна збіраю ўсё, што раптам успамінаю, спрабуючы захаваць дакладнасць і паслядоўнасць малюнкаў, што ўсплываюць у памяці.***

***Навошта я гэта раблю – не ведаю. Але раблю кожны дзень, асабліва калі кладуся ў ложак і не прыходзіць сон. Вось тады з неверагоднай хуткасцю пераношуся туды, куды дазваляе памяць, і спрабую глядзець на ўспомненыя малюнкі вачыма хлопчыка таго часу…***

У раннім дзяцінстве давялося змяніць некалькі месцаў жыхарства ў сувязі з пераводамі бацькі па службе. Нідзе больш трох-чатырох гадоў не жылі.

Найбольшую памяць пакінуў Бягомль. Напэўна, таму, што ў Бягомлі я рабіў свае першыя школьныя крокі ў нулёўцы, быў тады такі клас. Менавіта ў нулёўцы ў мяне з'явіліся першыя сябры.

Там, у Бягомлі, я ўпершыню ўбачыў легкавы аўтамабіль, на якім раз'язджаў начальнік палітаддзела МТС, мажны мужчына з ромбам у пятліцах гімнасцёркі.

З Бягомля я ўпершыню трапіў з экскурсіяй у Мінск і быў уражаны гмахам Дома ўрада, трамваямі і фабрыкай-кухняй, дзе мы харчаваліся.

У Бягомлі мяне прынялі ў піянеры. На адным з першых збораў абралі ў склад рэдкалегіі насценнай газеты.

У Бягомлі я ўпершыню, як і ўся краіна, сустракаў новы 1935 год з упрыгожанай сваімі рукамі ёлкаю, ролю якой выконвала сасонка, бо ў лесе, куды мы паехалі з бацькам, былі толькі яны. Гэта падзея адбылася дзякуючы артыкулу Максіма Горкага ў «Правде». Яго, калі не памыляюся, «Правда» надрукавала ў пачатку снежня, а ўжо ў канцы месяца ў кнігарні з'явіліся першыя ёлачныя цацкі. Нейкую дробязь маці купіла, а ўсё астатняе прыдумвалі і рабілі самі. Я быў у захапленні.

З Бягомля мяне, цяжкапараненага, 22-га красавіка 1943 года вывезлі на самалёце ў Маскву, у шпіталь.

Апошні раз я наведаў яго ўлетку 1976 года. І якой жа маленькай я ўбачыў сваю першую школу! Хацеў зайсці ў свой першы ў жыцці клас, але дзверы былі зачыненыя.

У 1933 годзе Бягомль быў звычайнай вёскай і па забудовах, і па ладзе жыцця, хоць атрымаў у дваццаць чацвёртым годзе статус раённага цэнтра Лепельскай акругі. Самай вялікай забудовай Бягомля была каменная царква, у якой у той час набажэнствы не адбываліся, бо вышэйшыя рэвалюцыйныя інтарэсы запатрабавалі размясціць у царкве пілараму і такім чынам выратаваць людзей ад опіуму, якім царква дурыла людзей. Што такое опіум, я тады не ведаў, але паколькі ў сям'і не было веруючых, не сумняваўся, што піларама патрэбна людзям, а Бога няма.

На другім канцы мястэчка была двухпавярховая, складзеная з чырвонай цэглы школа-дзесяцігодка, якая адразу пасля забойства Кірава атрымала яго імя.

Былі ў Бягомлі і гандлёвыя ўстановы: крама «Цэнтраспірта», дзе на паліцах стаялі бутэлькі з гарэлкай ёмістасцю ад 0,25 літра да 3-х літраў.

З крамай «Цэнтраспірта» дзятва пасвойму сябравала. Кожную нядзелю на плошчы, дзе яна месцілася, адбываліся базары, на якія прыязджалі сяляне з навакольных вёсак. Прадаўшы тое-сёе, амаль кожны селянін купляў у «Цэнтраспірце» пляшку гарэлкі і тут жа, на возе, адкаркоўваў яе. А тады былі сапраўдныя коркі, з коркавага дрэва. Каб адкаркаваць пляшку, трэба было добра наддаць у донца далонню, і тады корак вылятаў.

Вось гэты момант мы і цікавалі, каб паспець схапіць «сувенір» і пры гэтым не атрымаць пугай па спіне. Але калі нават такое і здаралася, а корак быў у руцэ, то ніякага болю я не адчуваў, бо за здадзеныя ў краме «Цэнтраспірта» корак плацілі дзесяць капеек, а гэта адно вялікае марозіва, на якое бацькі давалі грошы вельмі і вельмі рэдка.

Але я зрабіўся сталым наведвальнікам іншай крамы, з назвай «Кнігарня». Напэўна, была і крама харчовых тавараў, але не магу прыпомніць яе. Была аптэка і бальніца, кінатэатр, куды малеча прашмыгвала без квіткоў, а калі пачынаўся сеанс, усаджвалася на падлозе перад першым радам. Калі ўдавалася застацца ў зале пасля заканчэння першага сеанса, глядзелі з такім жа захапленнем і другі. Асабліва падабаліся фільмы з удзелам вядомых у той час камедыйных актораў Пата і Паташона. Тады ў фільмах не было сённяшняй уседазволенасці, якая прапагандуе культ супэрмена, бандыцкіх разборак з бясконцымі выбухамі, забойствамі, распуства. Таму бацькам не трэба было думаць: а ці можна гэты фільм глядзець дзецям?

На ўскрайку Бягомля была выспа з назвай Лысая гара. На ёй з грамадзянскай вайны захаваліся акопы. Дзятва ўзімку злятала з яе на санках, а ўлетку гуляла ў вайну, падзяліўшыся на «чырвоных» і «белых», шукала патроны. Здаралася, што знаходзілі, і тады раскладвалі вогнішча і кідалі ў яго тыя патроны, захапляючыся, калі яны ўзрываліся. Дзіўна, што нікога, наколькі я памятаю, не пакалечыла.

Аднойчы мне неверагодна пашанцавала — я знайшоў на Лысай гары добры на выгляд снарад ад трохдзюймовай гарматы. Абрадаваўся знаходцы. Прынёс снарад дамоў і паклаў у закутку за хатаю, дзе і вырашыў паглядзець, а што там у яго ўсярэдзіне.

Толькі ўзяўся за малаток, раздумваючы, як лепей ударыць, і атрымаў такую аплявуху ад бацькі, што малаток адляцеў у адзін бок, а я ў другі. Выратавала мяне тое, што бацька ў гэты момант зазірнуў за хату і ўбачыў, што я збіраюся рабіць.

Як толькі восенню трыццаць трэцяга года я быў залічаны ў школу, адразу папрасіў маці пайсці са мной у кнігарню. Мне вельмі хацелася, каб маці купіла як мага больш з таго, што я там выгледзеў. З кнігарні я вынес некалькі сшыткаў, ручку, колькі пёраў №86, шкляную чарніліцу-невылівашку, карабок з шасцю каляровымі алоўкамі, чарнільную і алоўкавую сціркі і драўляны трохкутнік. Але і гэта было для мяне казачным багаццем.

Неяк з сябрам наважыўся зайсці ў таямнічую краму з шыкоўнай назвай «Таргсін». На паліцах — прыгожа размалёваныя бляшанкі, пакункі, бутэлькі і шмат яшчэ чаго, што бачылі мы ўпершыню. У краме быў такі хвалюючы смачны водар ад недасягальных для нас прысмакаў, што нельга было вытрымаць, і мы моўчкі і хуценька выйшлі.

Праз нейкі час я даведаўся, што ў «Таргсіне» можна ўсё гэта купіць, але не за грошы, а за нейкую «валюту» ці золата. Паколькі ў маіх бацькоў ні валюты, ні золата не было, не давялося паспрабаваць тады нічога з таго, што мяне так уразіла.

Згадваючы тое сёння, я так і не знайшоў адказу на пытанне, якое кожны раз пры ўспаміне гэтага выпадку ўзнікала: з якой мэтай у глухой вёсцы-мястэчку адчынілі гэтую валютную краму? Не было там учарашніх нэпманаў з прыхаваным золатам.

Побач з Бягомлем месцілася невялічкая вёска Маргавіца, а крыху далей — Брадок. Нехта зрыфмаваў: «Маргавіца — сталіца, а Брадок — наш галоўны гарадок!». Гэта быў першы вусны твор, з якім я пазнаёміўся ў школе.

Цікавасць прывяла мяне і ў «сталіцу», і ў «галоўны гарадок». Я быў збянтэжаны, убачыўшы скасабочаныя, урослыя ў зямлю хаткі з маленькімі вакенцамі і саламянымі прагнілымі дахамі.

На ўскрайку Бягомля былі тры імшары: першая, другая і трэцяя. Так называліся невялічкія пералескі, паміж якімі, акрамя балотных купін, нічога не расло. Вось у адной з гэтых імшар я знайшоў першы ў сваім жыцці баравік. Зрэзаў яго, а месца, дзе ён вырас, прыкрыў мохам, каб ніхто не ўбачыў. Я туды прыходзіў кожны дзень паглядзець, ці не вырас новы баравік? І калі аднаго разу знайшоў адразу чатыры — незвычайна абрадаваўся.

З гэтага моманту я на ўсё жыццё зрабіўся заўзятарам ціхага палявання. Аднойчы пайшоў з суседскай сям'ёй па баравікі. Баяўся праспаць і папрасіўся ў маці, каб дазволіла начаваць у суседзяў.

Прачнуліся на світанку. Праз паўгадзіны былі ўжо на грыбным месцы. Там я ўпершыню ўбачыў, як шукаюць баравікі босымі нагамі. Знайшоўшы адзін, што тырчыць з моху, трэба, стоячы на адной назе, другой абмацваць мох навокал знаходкі. І амаль заўсёды побач пад мохам былі баравічкі-мацакі...

Ад галадухі нашу сям'ю ў трыццаць трэцім годзе ратаваў бацькаў вайсковы паёк. Як маці выкручвалася з ім на траіх — мне невядома. На першым месцы ў яе быў бацька, на другім — я, а ёй, як пазней яна сама казала, не заўсёды нешта заставалася. Таму той страшнай галадухі, якую зведала пераважная большасць вяскоўцаў, наша сям'я пазбегла.

Вясной, у канцы сакавіка — пачатку красавіка, як толькі сышоў з палеткаў снег, мой сябра сказаў, што заўтра ранкам ён з сястрой ідзе на перакопкі перазімавалай бульбы. Я далучыўся да іх, і мы некалькі гадзін бадзяліся па гразкім полі з кіёчкамі ў руках, адшукваючы тую бульбу, непрывабную і аслізлую.

Як-ніяк, а за паўдня назбіралі амаль поўны вядзёркавы кошык. Маці майго сябра ўзрадавалася і сказала, што прыгатуе «лапуны». Мы з нецярпеннем чакалі,калі гэтыя загадкавыя «лапуны» будуць гатовыя, бо ўжо вельмі хацелася есці. І вось урэшце атрымалі па тры ладныя тоўстыя аладкі і ў місцы тоўчанае канаплянае семя з соллю. Мачалі «лапуны» ў семя і елі, пахвальваючы — смаката! І не ведалі, што ў гэтую перагнілую бульбу дадавалася працёртая сасновая кара і жменька мукі грубага памолу.

У той год амаль усіх сялян так ці гэтак, а сагналі ў калгасы. І каб павялічыць калгасны статак, забаранілі ўсім (незалежна ад таго, калгаснік ты ці не), хто трымаў на сваіх падворках кароў, рэзаць цялят. Іх трэба было здаваць у калгас.

Насупраць нашай хаты жыла яўрэйская сям'я. Прозвішча, на жаль, не памятаю, а малодшую іхнюю дачку (ёй было пяць гадоў) звалі Міра. Бацька працаваў нарыхтоўшчыкам, і жылі яны, як і сяляне беларусы. Ацялілася ў іх карова. Падзея засталася па-за ўвагай мясцовай улады. Падгадаваўшы крыху, цялятка зарэзалі, бо сям'я вялікая і дзеці просяць есці. А каб ніхто з іх не прагаварыўся, падвучылі: калі хто спытае, адкуль мяса, сказаць, што зарэзалі авечку.

І вось аднойчы зайшоўшы ў хату сельсаветчык убачыў на стале ў місцы мяса. Дарослых у хаце не было, адна Міра. Яна заўважыла, што дзядзька зацікавіўся мясам, і кажа: «Гэта ў нас было цялятка, якое авечкай звалася, дык тата яго зарэзаў!» Добра, што сельсаветчык той чалавекам аказаўся, а інакш дорага ім каштавала б тая «авечка».

А што было рабіць людзям у тую галадуху? Трэба ж неяк жыць, ратуючыся ад клопатаў дзяржавы пра заможнае калгаснае жыццё. А крыў Бог, калі чалавек закалоў свінчо, а шкуру не зняў і не здаў! З самога тры здзяруць, калі даведаюцца!

Напэўна, у той цяжкі час у Бягомлі лепей за ўсіх жылося мясцоваму блазну, які бадзяўся па мястэчку, пра нешта сам з сабой размаўляў, нічога дрэннага нікому не рабіў. Звалі яго ўсе пан Пілсудскі. Заўсёды адзываўся на гэтае імя. А потым некуды знік. Хто казаў, што збег у Польшчу, а хтосьці сцвярджаў, што ніякі ён не блазан, а польскі афіцэр-шпіён. І каб не пільнасць НКВД, дык нарабіў бы ён вялікай шкоды ўсім. Якой канкрэтна шкоды — ніхто не ведаў, але ўслых усе радаваліся, што НКВД адвяло ад людзей бяду.

Гэты ўспамін пераносіць мяне ў снежань 1942 года. На наступны дзень, як партызанамі быў разбіты нямецка-паліцэйскі гарнізон у Бягомлі, я яшчэ раз сутыкнуўся з «пільнасцю» НКВД. Але захапленне ў мяне яна тады не выклікала.

У той дзень я сустрэў свайго школьнага сябра, з якім сядзеў за адной партай да чацвёртага класа — Івана Бацэку. Ён мне паведаміў, што ў Бягомлі знаходзіцца наш агульны сябра Іван Панцялееў і Валя К. Вечарам мы ўтрох пайшлі да Валі. Гэта быў вечар успамінаў пра школу. А праз дзень мне стала вядома, што Валю і яшчэ некалькі яе аднагодкаў арыштавалі смершаўцы партызанскай брыгады «Жалязняк», вывезлі ў лес за Бягомль і там забілі. Забілі за «здраду Радзіме» без суда. А здрада была ў тым, што немцы звазілі некалькі дзяўчат з Бягомля на экскурсію ў Германію, дзе ім паказалі, як нямецкія баўэры вядуць хатнюю гаспадарку. І ўсё для таго, каб дзяўчаты, вярнуўшыся ў Бягомль, расказалі пра ўсё бачанае людзям і штосьці з нямецкага вопыту ўзялі сабе на ўзбраенне. Прывезлі яны з Германіі і насенне розных кветак і агародніных культур.

Вось тады ўпершыню ў мяне ўзнікла сумненне ў справядлівасці таго, што зрабілі смершаўцы. Але як яшчэ далёка быў я ў свае шаснаццаць год ад такіх паняццяў, як «правы чалавека» і «прэзумпцыя невіноўнасці»!

І сёння, на схіле гадоў, успамінаю Бягомль снежня 1942 года, а перад вачыма стаіць прыгожая дзяўчына — мая аднакласніца, якую пазбавілі жыцця ў семнаццаць год. І душа мая плача ад усведамлення, што нічога нельга выправіць. І недзе яшчэ дажываюць свой век гэтыя «народныя мсціўцы"—смершаўцы і, відаць, сустракаюцца ў школах з вучнямі, расказваюць ім, як мужна змагаліся ў гады Айчыннай вайны з нямецкімі акупантамі і іх памагатымі...

Праз многа год сустрэўся я з адной жанчынай, маёй аднагодкай, якая ў 1933 годзе жыла ў Бягомлі. Разгаварыліся, успамінаючы той час, і яна расказала пра «заможнае» калгаснае жыццё яе сям'і. Тады падворак калгасніка абкладваўся падаткам шмат за што. І калі гаспадар не разлічваўся з падаткам у тэрмін, у яго забіралі з двара жывёлу ці рэчы, у залежнасці ад велічыні запазычанасці. Рэчы ацэньвалі прадстаўнікі падатковай службы і сельсавета.

У той год на працадні не выдалі ні капейкі грашыма, а тут позва — тэрмінова сплаціць падатак. А дзе селяніну ўзяць тыя грошы? Не заплацілі ў вызначаны тэрмін, і на падворак прыйшлі апісваць маёмасць. А што апісваць? Самае каштоўнае, што ў іх было, — гэта кажушок, які застаўся пасля смерці бацькі. Гэта была і памяць пра яго і матчына адзенне ўзімку.

Пакуль інспектар з сельсаветчыкам аглядалі падворак, вышукваючы прыхаванае свінчо, маці ўпіхнула кажушок у мех і пасадзіла на яго сваю дачушку — маю субяседніцу. Агледзелі госці падворак, нічога вартага не знайшлі — і ў хату. А там таксама пуста. І звярнуў увагу інспектар на дзяўчынку, што сядзела ў куце і сваёй спаднічкай намагалася нешта, на чым сядзела, прыкрыць. Ён ёй і кажа: «Што ты там хаваеш, пакажы!» Дзяўчынка спалохалася, яшчэ мацней учапілася за мех і скрозь слёзы адказвае: «Не пакажу, бо гэта татаў кажушок!» Сілком сцягнуў інспектар дзяўчынку з меха, выцягнуў кажушок і кажа: «Ну вось і разлічыліся з падаткам, а казалі, што няма чым плаціць!»

...Даўно гэта было, амаль сем дзесяткаў гадоў прайшло з таго часу. Шмат што змянілася за прамінулыя дзесяцігоддзі, ды вось бяда — не заўсёды ў лепшы бок. Пастарэла вёска. Шмат у якіх дзіцячага смеху не пачуеш. Маладзейшыя хто куды паразбягаліся. А тыя, што засталіся, ці не ўсе спіліся. Ды ці дзіва, што дзіцячыя галасы ў вёсцы — з'ява анамальная?

Не-не, ды й задаю сам сабе пытанне: а што гараджане ў хуткім часе піць, есці будуць, калі ўсё ў вёсцы застанецца так, як сёння? Кока-колай і снікерсамі сыты не будзеш. Пытанне, канешне, у пэўным сэнсе рытарычнае, але ад яго, як ад мухі, не адмахнешся. Вядома, можна чарговым дэкрэтам абавязаць усіх гараджан (рабочых з заводаў, настаўнікаў, вучняў, студэнтаў, прафесараў) адпрацаваць тыдзень ці два на ўборцы бульбы і буракоў, нарыхтоўцы кармоў для жывёлы. Гэта зрабіць можна, вялікага розуму не трэба. А як быць са статкам? Хто яго дагледзіць, каб не сорамна было за тыя казіныя літры, што сёння ў калгасах надойваюць ад каровы? Гарадскую жанчыну ніякімі дэкрэтамі на ферму не загоніш. А калі нават такое і здарылася б, дык што яна будзе рабіць каля тых кароў?

Не ведаю, як там у Мінску ў тых, каго называюць абзлічана «ўлада», а ў мяне трывожна на душы, бо я жыву ў асяроддзі, якое беззваротна гіне ў п'яным ачмурэнні. І калі гэта канчаткова здарыцца — будзе позна рэфармаваць сельскую гаспадарку. Ды і сёння ўжо наўрад ці знойдуцца добраахвотнікі працаваць на зямлі.

У трыццаць трэцім я быў дзіцём і дзіцячымі вачыма глядзеў на ўсё, што адбывалася. Мне тады і «лапуны» былі смачныя, а сёння...

*г. Слаўгарад*

шынамі. Налева яна, лесавая, вяла ў Лімень, адкуль выязджалі ў Сычын, але цяпер звярнулі направа і неўзабаве пад'ехалі да брамы. Я выйшаў з машыны і адчыніў браму. За ёю сталі старыя яліны, пад імі, на ўзгорку, дамок, а за дамком — лагчынка з ручаём у алешніку, стажок сена. У агароджы, якая замыкала гектараў дзесяць рознапароднага, пераважна лісцвянага, лесу, жылі алені, а хатка стаяла прытулкам вальерных егераў, хоць называлася дамком паляўнічых. Мне гэта быў свой дамок, тут я неадноййчы жыў, пісаў сваю «Пушчу» і не адну яе, з егерамі адсюль выязджаў на кабаноў, ваўкоў, сюды кожны раз вярталіся з палявання, а Міхасю яна была навіною. Цяпер у хатцы не было нікога, але ключ ад замка ляжаў у вядомай мне шчыліне, і мы яе адчынілі. Пабылі на рачулцы, абышлі кармушкі для аленяў, стажкі, хлявы, вярнуліся да дамка, селі за вялізны, на добрую каманду паляўнічых, стол пад ялінамі, ля ганка. За гэтым лясным сталом я зняў Міхася на фотаплёнку і пайшоў з вядром па ваду. Вярнуўся — ён ужо сядзеў з Петраком Ерафеевым, егерам. Тут Пятрок вынес з хаты, паставіў на стол каструлю са смажанай дзічынкаю, паўпляшкі сівухі. Сказаў, што быў на возеры, узяў качку, ужо не худая, несорамна і гасцей пачаставаць. Міхась не піў, а мы з Петраком сівуху разлілі па шклянках. Калі з размовы Пятрок дазнаўся, хто перад ім, са мною побач, падняў над сталом каструлю са смажанкаю, выхапіў з-пад яе кнігу, на якой прынёс ды паставіў каструлю, у паветры, як жанглёр, вертухнуў і пляснуў перад Міхасём на стол. А кніга была Міхасёва, на рускай мове, і называлася «Двое в лесу». Міхась адгарнуў вокладку, за ёю знайшоў і асцярожна ўзяў шыгалінку, старонку адгарнуў, знайшоў бярозавую галінку з засохлымі пупышачкамі, яшчэ старонку адгарнуў, перабраў там, між старонак, у пальцах лісцікі, засохлых камарыкаў, крыльцы матылькоўя, голкі хваёвыя ды яловыя, і яго твар, пакуль пераглядаў усё гэтае начынне кнігі, мякчэў, святлеў. Потым склаў кнігу, перавярнуў яе ўгару апошняй вокладкай, на якой стаяла каструля, падзівіўся на след, які яна пакінула і попелам, і тлушчам. А круг на вокладцы быў не адзін, кругі ляжалі розных памераў і колераў, было відаць, што яна неадноййчы бывала і пад скавародамі, і пад чыгункамі, і пад пляшкамі ад віна. Ён, аўтар кнігі, мог пакрыўдзіцца за гэтакую да яе павагу? Ну, вядома. Але быў у захапленні, і гэтае захапленне раптам выплеснула з усіх берагоў:

— Ну, Пятрок!.. Вось — карысць ад кніжачкі, га?.. Хоць з аднаго боку, хоць з другога — лясныя аўтографы. ... І аднаго тут не хапае. Ці ёсць, Пятрок, у цябе шарык?

Шарык я яму падаў, ён пачаў пісаць на кнізе свой аўтограф, і пакуль думаў ды пісаў, Пятрок соўгаў у кнігу пальцам і супакойваў не то яго, не то сябе:

— Ты паглядзі, першая вокладка чыстая, адна пячатка ад пляшкі віна, а што ад скавародаў, чыгункоў — усё на апошняй вокладцы, дзе твайго — ні слова, няма што чытаць, акрамя цаны. Сам ведаеш, як гэта бывае, калі голай рукою выхапіш з агню пасудзіну, сунеш пад яе, што пад рукою. А што пад рукою? Твая кніга! Бо тут цябе чытаюць. Іван Лесечка яе прывёз з Магілёва, доктар, як тут паляваў, чытаў, на ноч пад падушку клаў, каб хто не сплавіў, а як ад'язджаў, тады нам, егерам, пакінуў: чытайце, кніга стоячая, лечыць мазгі і душу... Ды... ты ж Лесечку ведаеш, разам палявалі? — Пятрок глядзеў мне ў вочы, як чакаў падтрымкі.

Ён казаў праўду. Быў тут доктар Лесечка, прывёз кнігу, тут усе яе чыталі, але ў тым, што Міхась убачыў ды пачуў, была не адна праўда факта, была яшчэ інтрыжка, маленькі лесавы сюжэцік, які лячыў хоць ад роспачы, хоць ад нуды, і якраз гэтым лёг на душу. Міхась рассмяяўся:

— Ну, кніжачка!.. Ну, кабета!.. Лёгкіх павадзінаў?.. То пад чыгунком, то пад доктарам — га?..

— А хочаш, — падвесяліўся яшчэ больш Пятрок, — я табе раскажу анекдоцік пра генеральшу?..

З маіх тутэйшых, на Лімяншчыне, сяброў найбольшую цікавасць Міхась меў да Петрака і Ягора Захаравіча Лісікава. Абодва яны людзі бывалыя, лясную народную акадэмію прайшлі, як кажуць, «ад» і «да», Пятрок Ерафееў — з маленства ляснік і паляўнічы, Ягор — ляснік і рыбак. Ад прыроды і філосафы — натуральныя. Пятрок яшчэ і ад вайны — прайшоў некалькі лагераў смерці і немцы з ім за яго пакуты яшчэ ўсё разлічваюцца маркамі ды падарункамі. А Ягор, пражыўшы сто чатыры гады, філосаф і ад рэвалюцыі. Пятрок — быў і ёсць, Ягор — быў, пайшоў у рай гадоў пяць назад. Я дастаю з свайго архіва касетку, закладаю ў магнітафон і слухаю галасы Ягора, Стральцова і лімянскага ляснічага Васільевіча, таксама сябрука-нябогу. Запіс зроблены ў Мірагошчы — Міхасю тады вельмі спадабалася назва вёскі, — што там, дзе і Лімень, праз Сож, хаты абедзвюх вёсак стаяць над вадою, праз раку глядзяць адна на адну, вокнамі ў вокны. Там, у сваёй хаце, стары «баіць байкі», а Міхась іх аздабляе то вершыкамі, то рогатам, зрэдку — нерыфмаваным слоўкам. Вось кажа дзед Ягор:

«Дзела было за рэвалюцыяй, і я, значыцца, шукаў выйсце насіць хромавыя боты, каб са скрыпам. Прыйшоў да ўласці і кажу: хачу абезаружываць кулакоў, як ворагаў беднага пралетарыя. Пытаюцца: якім пуцём? А такім. Кулака сцеражэ сабака. Я буду яго абессабачваць. Ну, мне тут далі паперку, дакумент, і я пачаў вайну супраць кулацкіх сабак».

Стральцоў смяецца, а Васільевіч кажа: «Тут ты, Ягор, як той дзед Шчукар...» Стары не згодны: «Я ў партыю не падаваў і Шчукар мне не таварыш». — «А сабак ты страляў?» — «Ну, так...» — «А не хлусі. У цябе надта добрая душа і з гэтакай душою страляць сабак ты не мог.» — «Дык я, — дае назад дзед Ягор, — сабак сам не страляў, у мяне былі добрыя сябры, у іх былі ружжы, яны мяне паважалі за тое, што я быў рукавадзіцель, і яны стралялі...» «А ты сабак лупіў?» — працягвае свой наступ Васільевіч. —»Н-не, не лупіў...» — «Выраблеў шкуры?» — «Н-не, не выраблеў, — пачынае ўжо губляцца стары. — У мяне быў друг яўрэй...» Васільевіч не супакойваецца: «Ну, заліваеш, Ягор. Сабак ты не страляў, не лупіў, шкуры не выраблеў, а боты хромавыя насіў, ды яшчэ са скрыпам?..» Міхась рагоча, заліваецца, а дзед Ягор ажно з-за стала ўсхапіўся: «Дык я ж меў працэнт, як рукавадзіцель!.. Што такое рэвалюцыя, таварыш ляснічы? Я яе зразумеў — гэта ўмець рукавадзіць!..» — Тут у старога ўжо і горла перахапіла, раскашляўся, ажно са свістам. Дзедава хата разломвалася ад рогату, нават старая Хадора прыбегла са двара з сахаром, стаяла на парозе і не ведала, разгубленая, каго ёй ратаваць. А даўжэй за ўсіх рагатаў Міхась — аж слёзы з вачэй каціліся. І плакаў насупраць яго, цераз стол, дзед Ягор, ад таго, што Васільевіч пакепліваў пры людзях, не даў веры апавяданню пра хромавыя боты і кулацкіх сабак. Але і пасміхаўся, пазіраючы ў задавальненні на Міхася: хто не паверыў, а хто паверыў — хай будзе так.

А вось і фотаздымак — сам дзед Ягор. Тут, праўда, час ранейшы, гадоў на дваццаць, за той, калі ў дзеда Ягора быў Стральцоў, і Міхася тут няма, але ёсць, маладзейшы на тыя дваццаць, дзед, і ёсць Васільевіч, які старога, перад Міхасём, разыгрываў (крайні справа), і фон для дзеда Ягора тут таксама не благі — Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль, Рыгор Барадулін разам з маімі сябрамі-леснікамі Віталем Шаблоўскім, Міколам Клімавым і Карпенкам, тым жа Васільевічам. І ўсе вясёлыя, як у хаце ў старога, дзе быў Міхась, бо і тут пачаставаліся ягонымі юшкаю, сівухаю, байкамі. Усім весела, а ў дзеда Ягора — заслужаны перакур і прыкурвае ён таксама прыгожа — ад вялізнае, з жывога вогнішча, галавешкі.

Іванкава неба — дзед Міхалка. Гэтае пачуццё Стральцоў добра ведае. Бязмежная дабрыня — на той мяжы, якую Міхалка адчувае ўжо як нешта небяспечнае, знак з неба, дарогу туды, на неба. Іншы, але таксама цікавы ў сваёй зямной трываласці дзед Трахім. І ці не ў гэтым шэрагу вясковай і жыццёвай мудрасці ўбачыўся Стральцову дзед Ягор? Бо вочы ў Міхася на яго загарэліся — то былі вочы мастака. І дзеда Ягора ён меў на ўвазе таксама, думаю, калі назаўтра, ужо ў Крычаве, у маім доме, зашыўшыся ў пакойчыку, пакіне мне на стале старонку такіх агаленых пачуццяў: «У Мінску пазваню табе, дружа, каб падзячыць за радасць сустрэчы з нечым неад'емна сваім, нашым, што там, у Лімені, цярпліва чакала нас і, дзякаваць богу, не прачакалася. Наталіўшы, яно адпусціла нас, хочацца думаць, з лёгкім сэрцам, але наказала вяртацца сюды, можа, і з цяжарам на душы — па цудадзейныя свае лекі. Няхай будзе благаслаўлёная ўлада ўсяго роднага нам».

І як шкада, што туды мы ўжо з ім не вярнуліся.

Вось і яшчэ ў маім архіве здымак: Стральцоў і Кудравец. Гэта — гадам раней, як была тая Лімень. Мы ехалі з Мінска ў Крычаў і па дарозе, каля Чэрыкава, спыніліся. Глядзіш на здымак — так шмат душы гаворыць і постаць Міхася, і постаць Кудраўца, і нават прасвет, які між іх.

А гэта — Стральцоў у Крычаве. І Генрых Далідовіч, і Віця Куліненка, крычаўскае прозы класік, і цікавы пісьменнік ды артыст, нават у званні заслужанага, Рыгор Налівайка, які ў тыя дні здалёк прыбіўся да майго парога, каб усіх нас пачаставаць цудоўнай украінскай мовай, песняй, Тарасам Шаўчэнкам і які тут, на фота, таксама з «Кабзаром» у руцэ, ля сэрца.

Ёсць у Стральцова верш «Размова з часам» — споведзь і не толькі, прароцтва і не толькі:

***Я — голас і думка, я — праўда і зрок.***
***Даў мову я каменю, траве і расінцы.***
***Мой дзень — не імгненне, планеты віток,***
***Друкую свой крок на сусветным гасцінцы.***
***Спасцігнуць усё праз цябе я хачу,***
***Табою маё ўсё няхай апякуецца.***
***Знай пункты гульні.***
***А паруш — закрычу,***
***Аж голас у веку наступным пачуецца.***

Век новы, наступны — пачаўся. У ім добра чуецца голас Міхася Стральцова. Ён не проста жыве ды радуе. І ў новым веку ён вядзе, як той лоцман, карабель мастацкага слова, людскія душы і пачуцці да вышыняў, якія аднойчы назваў «гамбургскім рахункам» і замацаваў залатой «пячаткаю майстра».

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

*Фота аўтара*









ПРОЗА

***«Трасянка», на якой размаўляе вясковы, местачковы і, асабліва, «вяскова-гарадскі» люд на Беларусі – сумны вынік русіфікацыі беларускага народа.***

***«Трасянка» – з'ява непажаданая, часам смешная, часам пачварная – гледзячы, з чыіх вуснаў яна зыходзіць. Але ці толькі русіфікацыя спарадзіла яе нам? Зрэшты, гэтае пытанне найперш моўна-лінгвістычнае, а, значыць, неадназначнае і не такое простае, як здаецца на першы погляд.***

***Як і сама мова...***

***Клясці «трасянку» можна і варта, але ці шмат карысці дзеля ратавання «чыстай» мовы дасць нам адно грэблівае стаўленне да гэтай клятай трасянкі? Дарэчы: а што такое «чыстая» беларуская мова? Літаратурная? Унармаваная? А як быць з рэгіянальнымі дыялектамі, няўжо яны не зусім «чыстыя» ці другарадныя моўныя плыні: ім жа сотні гадоў!***

***А яшчэ ёсць выраз – «жывая мова»... Нашы дыктары н а ц ы я н а л ь н а г а тэлебачання, нашыя артысты н а ц ы я н а л ь н ы х тэатраў, нават нашыя «моўна ўнармаваныя» літаратары наўрад ці валодаюць жывою моваю больш дасканала, чым якаясь цётка Вара з усходне-палескіх Васілевіч ці, прабачце, дашчэнту «затрасянкаваная» баба Соня з-пад Рэчыцы? Смешнае пытанне, ці не так?***

***Мова – гэта стыхія!***

***Аднак дзеля чаго гэта я?..***

***На ўсе мае хаатычна ўзнятыя пытанні існуюць сістэмна-абгрунтаваныя навуковыя адказы – здагадваюся, сам на філфаку вучыўся! Проста хачу прапанаваць чытачу гэтыя дзесьці-калісьці падслуханыя, але збольшага прыдуманыя маналогі-аповеды, каб ён сам вырашыў: а ці такая ўжо вялікая пагроза роднай мове-стыхіі зыходзіць ад такога вось кшталту «трасянкі»?***

***Каб прачытаў і... абнадзеіўся.***

**АЎТАР**

# ВАСІЛЕВІЦКІЯ МАНАЛОГІ НА "ТРАСЯНЦЫ"

Мікола ЗАХАРАНКА



## Суседка

Яны абое некія прыдуркаватыя. Яна ў магазін прыдзе, дак то спадніцу задам наперад адзене, то чобаты ні на тую нагу... Учора прышла, стала ў вочарадзь па хлеб. Мы, бабы, усе, хто тамака буў, зір! – і пападалі з рогату. А яна што зрабіла? Губы бураком ці чым накрасіла і чорным карандашом абвяла. І стаіць у шляпе, як вурдалака! Жэншчыны смяюцца, аж пальцамі на яе паказваюць, а яна нам:

«Не бачу нічаво смяшнова!»

Прыдур, адным словам. Па вуліцы ідзе, сцёгнамі ўлева-ўправа «дыр-дыр, дыр-дыр». А ўжо ж старая, мо з майго году...

У іх дварэ дзічка расце. Дак ён увосень як прыпадачны пад ёю поўзае, гнілкі есць. Я нешта сваё каля плота рабіла, палола ці што, а ён, чую, па той бок ужэ дзічку ламошыць. У шэсць часоў утра! А яна ходзіць каля яго да прыгаворвае:

«Семён, будзет запор, Семён, будзет запор».

Дык і праўда, ён як нажрэцца тых гнілак – яго абдуе, што і аправіцца не можа. Сядзіць тады ў вуборнай – а мне ж чутна – і стогне. А тады як завые! Я первае ўрэмя дак дажа баялася. А тады – што вы думаеце? – вылазіць і зноў прама пад ігрушу! Камедзія!

Хадзілі па хатах перапісваць скаціну. Ігната Брыкуновага хлопец большы хадзіў, ён у сельсавеце секратаром ці кім... У мяне свінню і казу запісаў, а парасяты не пабачыў. А тады, чую, да іх у калітку стукае. А яна падышла к плоту, цыцкі на штыкет вываліла і не адчыняе. Чую, гавораць, а мне ж усё чутна! Ён кажа, хлопец еты:

«Я, мамаша, перапісваю скаціну».

А яна «хі-хі» да «ха-ха» – выломваецца перад ім, як... Перад етым хлопчыкам! Ну? Я, кажа, не магу вам аткрыць, у мяне цяперака дома мужа нет. Той расцяраўся да кажа:

«А гдзе ваш муж?»

А яна:

«Мой муж аб'елся ігруш!»

Дак хлопец, чую, сам сабе пад нос гаворыць:

«Праўда, што ў цябе не ўсе дома».

Так і не зайшоў!

Эт-т, жывуць людзі, як ім што ў галаве павернецца. Косы дыбам становяцца, як панаблюдаеш. Але ж... кожнаму сваё. Мой, унь, разумны, а што з таго? На пілараме той здароўе паклаў ні за панюх табакі. Пайду ў кантору палучаць, дак і палучаць няма чаго, толькі што – піларамшчык... Тры пальцы адрэзаў, дак шчэ ж два асталося, рабі! Ай, гора!..

А етыя не глядзі, што прыдуркаватыя. Яна бібліятэкаркай сядзіць, а ён у клубе акалачваецца, кімся так робіць. От, так-сяк, дай пражывуць жызь. Шчэ мо лепш за разумных...

## Паліцай

Як немец нас пагнаў, дак усіх мужчын зразу сталі срочна ў сельсавеце запісваць на мабілізацы. А я тады рабіў у пажарнай часці. Прыходжу запісвацца, я і ўсе мае хлопцы з пажарнай, а нам кажуць:

«Нет! Вы находзіцеся на службе. Жджыце асобага распаражэння».

Мы й парасходзіліся па дамах. А назаўтра мо, ці на другі дзень, не помню ўжо, немец тут як тут. І так мы асталіся на бабах.

Прыехалі жандармы і дом, дзе райком, занялі. Тады ўжо немцы сабралі мужчын, хто стаўся. І сказалі ўстрайвацца на работу. Паабяшчалі, што будуць даваць паёк: хлеб, крупы, муку – ну, усё, каб жыць.

Дак, а дзе було дзецца? Мяне і Васіля Шлуда паставілі старажаваць склад, той, дзе загатскот цяпер, ці што там зараз... А тады, мо месяцаў цераз колькі, усім падавалі вінтоўкі і павязкі на рукавох, сказалі, што цяперака ўсе далжны служыць у паліцыі. От так!

А ета ж ужо не шутачкі. Тыя, што зразу пашлі ў паліцыю, ужо і жыдоў білі ў Рубаніках, і ўжо яны булі «нямецкая ўласць», такія камсамольцы-дабравольцы булі.

Ага... А тут і нам вінтоўкі падавалі, дак хто етага хацеў?

Так от і выйшла: адны супастаты пашлі, а другія прышлі. А і тыя й тыя пілі нашу кроў чалавечаскую...

Думаю, як адкараскацца? Тады малады буў, дак па дурасці мог бы і ў партызаны пайсці. Да й то, наўрад. Пойдзеш, а яны возьмуць ды застрэляць, яны доўга ні з кім не чыкаліся, ета ж такія самыя... А не ўб'юць партызаны, дак немцы сям'ю ўніштожаць!

А буў такі немец у камендатуры. Юзік. От харошы чалавек буў! Ён і не немец, а некі паляк ці хто. Ён з Познані сам. Еты Юзік немцаў знаў! Ён ім не служыў. Ён так, папаўся да іх у плен. І ён мяне чаго-та ўважаў. Дак я асмеліўся, да к етаму Юзіку. Кажу, так і так, здароўя няма, кашляю, схуднеў саўсім, як бы мне дзе другую работу знайсці, каб не ў паліцыі. А ён, – от буў чалавек разумны! – мяне зразу раскусіў. Кажа:

«Сохар, едзь у Гомель да ўрачоў, яны там цябе праверацць і дадуць спраўку, што ты не годны ў нашай паліцыі служыць».

Я й паехаў. Ужо на рыск: што будзе, то будзе!

Ага... А ехаў жа як: на нямецкім перавозе! Два немцы-машыністы і я. Там, дзе вугаль, сядзеў. І ў іх з пяском платформа спераду: а мо, случай, міна якая ці што... Дак страшна було. Яны то быстрэй разгоняцца, то – ціхенька. Доўга ехалі, уночы.

Зайшоў я к тым урачам, а яны мне там кажуць:

«Прывязі самагонкі, прывязі мёду, прывязі сала, дак тады табе дадзім спраўку».

Дак я й назад. Хоць ты што хочаш рабі!

А назад ехаў – вялікая дрэзіна хадзіла, я таею дрэзінаю ўжо прыехаў.

Іду са станцыі – і етага Юзіка стрэціў.

«Ну што, Сохай (ён так не вугаворваў: не Сохар, а – «Сохай»), далі табе спраўку?»

Дак я кажу: такое й такое дзела. Дак ён немцаў нагаварыў: бальны я... А немцы каб табе патрэбавалі спраўку ці што. Ета табе не нашы, не бальшавікі, немцы вераць! Еты Юзік нагаварыў ім, набалбатаў, і я патрохі, патроху – і асвабадзіўся. Шчэ хадзіў трохи ў паліцаю. Цераз два, цераз тры дні. Думаю: а мо там дзецям хлеба дадуць? А далей – адкараскаўся?

Выйшаў я ўжо з паліцыі, дак стараста васілевіцкі страчае, да:

«А-а, Рыгорка, ты ўжо тую кавеньку кінуў?» – ета ён пра вінтоўку так. Дак я кажу:

«Я бальны».

А ён мне – нарад на работу!

На жалезнай дарозе, тамака, за могілкамі, будка стаяла. Раньш на жалезнай дарозе па ўсёй пуці будкі стаялі. У лесе... Дзе б сабе ні було... Дак хадзілі туды і насілі лес на плячах. І строілі ўкрапленне кругом етай будкі. Трэба було адну сценку бровен накласці, а побач другую, а сярэдзіну закідаць зямлёю. І кругом усёй будкі! Дак лета хадзілі з етым жа вот Васілём Шлудавым.

Вот такая наша жызь була. Галодныя. І я, і сям'я, і няма дзе дабываць. А як пражылі? Я чобаты шыў, рамантаваў чобаты, а то – дзе хто што, як-небудзь... А йшчэ трэба хадзіць немцам на работу...

А тады, як нашы прышлі, мяне зразу забралі на фронт. Мінамётчыкам. І дайшоў аж да Кенігсберга. А там раніла ў дзве нагі – і баста. Тады й шчэ год па гаспіталёх валяўся, у мяне і цяперака два асколкі ў правай назе сядзяць, памацай во. Мне медалёў на фронце навыпісвалі мо штук пяць, але потым эмгабісты адабралі ў пяцьдзесят першым, як арыштоўвалі.

А як мяне забралі? Буў такі прадсядацель калхоза Ёська Яшчын, ён і цяпер мо йшчэ жыве. Кажа:

«Пайдзёш на летні сезон калхозны тавар пасвіць».

Ета трэба было ўсё лета ў лесе ў Пасужы на кашары жыць. За нішто. Ета была галодная смерць сям'і. Дак я кажу:

«Пашоў ты!» Ругнуўся на яго. А ён:

«А-а, так? Дак пойдзеш туда, дзе Макар цяляты пасёт!»

І ўсё! Цераз тры дні я ўжо ў Мозыры ў кэпэзэ сядзеў. Судзілі мяне як паліцая, забыўся, па якой там стацці. А ета ж быў пяцьдзесят першы год, ужо к той пары і паліцэйскія некаторыя з цюрмаў папрыходзілі! А я йшчэ тры гады Куйбышаўскую ГЭС строіў. От так...

Дак я не быў у паліцыі, людзі знаюць. І яны ета знаюць, эмгабісты! Да яны і цяпер камандуюць. Перастройка! Растармашыць нада уласць етую, от тады будзе добра, тады будзе перастройка. Перастроіць – дак нада уволіць іх усіх, да аддзяліць куток які, да іх туды пасяліць, асобна ад людзей, – тады б мо і жызь пашла...

## Паліцаева жонка

**1**

Выкапала я тую бульбачку, а як прывезці? Ссыпала на зямлю ў адну кучу, накрыла гіччу дай пашла. Прышла дадому плачучы. Аж бачу, пад'ехалі к суседцы шаферы на машыне, смяюцца, гавораць – суседка добра ўмее жыць. Дак я падышла да папрасіла іх:

«Хлопцы, можа б, вы прывезлі мне мяшочкаў пяць бульбы. Тут недалёка, добрая дарога...»

А дарога не добрая, у балота нада было лезці! От Павел сеў з адным шафёрам да паехаў. Забралі тую бульбачку, той шафёр сам і насыпаў. А машына засела, дак чуць вулез. І прывёз мне ету бульбачку, сказаўшы:

«Эх ты, цётка, падманіла!»

А я кажу:

«Мой галубчык, табе грэх не будзе, ты здзелаў добрае дзела, я за цебе буду маліцца Богу».

Дак яны мне, і шафёр, і начальнік яго, тую бульбачку сцягалі з машыны і ў хату ўцяглі.

А ў маёй сястры былі радзіны, дак яна мне прынесла місачку аладак, місачку кісялю, у мяне ў самой гарбузоў багата, дак я навыбірала зярнят. А болей нічога няма ў двары і ў хаце. Етыя шафёры паглядзелі да й кажуць:

«Ох, Божа ж мой, Божа».

Я расказала, як жыву, які случай: тры дні, як асудзілі бацьку дзяцінага. Дак яны ўдзіўляюцца, ужасаюцца:

«Дак як жа ты будзеш жыць?»

А я кажу:

«А вот бульбачка е, буду жыць».

«Дак етай жа бульбачкі табе не хваціць на сям'ю!»

Ноч сядзелі да гаварылі, у іх было што выпіць, дак яны не спяшылі. Тады кажуць:

«Ну, нам нада ехаць у Мозыр».

А я ведала, што мой Рыгор акраз цяпер недзе ў Мозыры сядзіць. Як яны ета сказалі, што едуць у Мозыр, дак у мяне ў вачах цёмна, цёмна робіцца... Думала, галавой крануся. Здалося, што кінула дзяцей і еду з етымі шафёрамі ў Мозыр. А яны, мабуць, замецілі ета, да мне:

«Чаго ты, цётка?»

Я апомнілася, кажу:

«Нічога, хлопчыкі, едзьце з Богам, дзякуй вам за ўсё ваша добрае».

Яны й паехалі...

Дак от цяперака ў мяне пяць сыноў і дзве дочкі. Сыны харошыя, і ўнукі харошыя, і сама пражыла добра, красіва. А ўсе раўно хто-небудзь плахім чым назаве. А іменна хто? Хто крывапіўскім пуцём ішоў, банда тая, што людзей нішчыла і мяне разам. І слава Госпаду Богу, што мы ета пражылі, а цяпер – што Бог дасць. Мне цяпер не страшна ўміраць, бо ўжо неінцярэсна жыць, уся сіла мая ўпала. Мне ўжо семдзесят сем, а дзеду восемдзесят першы, хваціць з нас. Дай Бог, каб дзеці нашы столькі пражылі. Судзі, Госпадзі, святым Вялікаднем і памагай дзецям так, як нам памагаў усю дарогу. От!

**2**

Было такое ў жызні, што мы асталіся без куска хлеба.

І паабяшчаў адзін чалавек купіць у нас хлеў. Дай не прыйшоў! А нам жыць няма за што. Бацьку забралі, дзеці галодныя – няма ходу. Пашла я к етаму чалавеку аж на Варашылаву вуліцу. Прышла, а еты чалавек з жонкай адказаліся, з хаты мяне выпхнулі і дзверы зашчапілі. Я вышла, на двары завея...

А хлопчык мой большы, Шура, малы йшчэ, гадоў чатырнаццаць-пятнаццаць, на станцыі памагае грузіць скот і паедзе са скатом у Ленінград. А чым ён будзе жыць? Ён не з'еў нічога, устаў раненька і пашоў.

Іду я ад тых людзей, вышла на поле, завея, нідзе нікога, няма надзежды ніякой! Дзіця паедзе галоднае, памрэ ў дарозе.

Стала я плакаць і прасіць святога Міколу: «Мікола святы, пабач маю жызнь, паглядзі на мяне, не астаў мяне, не астаў маіх дзяцей!"

Іду і за слязамі не бачу свету. Завея, ўюга... Выйшла я ў полі на сцежку, ужо кудою мне йсці дадому. Паглядзела направа, аж адтуль ідзе з Ведрыча чалавек. І так спяшыць, так спяшыць! І прабег мяне. А там, як глядзець уперад, сабака ляжыць на дарозе, а сабак я вельмі баюся.

Той чалавек параўняўся з сабакам, паглядзеў на яго – сабака і не гаўкнуў, як ляжаў, так і ляжыць. Ну тады, думаю, пайду і я, што ўжо будзе. Падыходжу – ляжыць торба. Не торба, а насыпка з падушкі. Я нагою таўх – мякка. Падняла – важка. Падумалася, што нехта кінуў цэмент. А нашто ён мне? Паважыла – не, лягчэй цэмента, мяккае. Я пад руку етую сумку, перад сабою нясу і аглядваюся, думаю: а мо хто даганяе, а мо еты чалавек вернецца, што пайшоў? Бо ён жа бачыў ету сумку!

А дзіця маё на станцыі, грузяць скот. Па той бок пуці. Падыходжу к станцыі. Падыходжу і колькі маёй сілы прычытаю: «Святы Мікола, памажы!». Мой Шура кінуў тое сена, бяжыць ка мне. Бачыць, што я нешта нясу цераз сілу. Ён падбягае:

«Мамачка, што ты нясеш?»

А я кажу:

«Сынок мой салавейка, я й сама не знаю, што я нясу. Мо які попел, мо які цэмент, а мо які пясок магільны! Дабра ж у мяне кругом нідзе няма, і табе я нічога не нясу".

«Мама, стой, я пабачу!"

Ён етую сумку ад мяне ўзяў, дадолу бухнуў – дак пыл пайшоў. Я думаю: мабуць, цэмент, бо вельмі важка. Ён развязаў:

«Ой, мамачка, – мука! Харошая, пшанічная, мо вышшы сорт. Мамка, завяжы ды накрый чым, бо нехта адбярэ!»

А я загаласіла да кажу:

«Сынок-салавейка, адбярэ – значыць, то не наша. А не адбярэ, дак мо Гасподзь нам і памог, мо святы Мікола даў».

*(Працяг на стар. 12)*





## Трагічны "Індэкс" беларусаў

**Не так даўно ў музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя выдання, якое, безумоўна, зацікавіць тых, чые сваякі ў мінулым былі асуджаныя ў гады сталінскіх рэпрэсій. Гэта кніга — "Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920—1950-я гг. у Заходняй Сібіры" (укладанне кандыдата гістарычных навук Ігара Кузняцова), дзякуючы якому многія з тых, хто згубіў след сваіх родных, змогуць даведацца пра іх горкі і трагічны лёс.**

**Для ўсіх жа іншых кніга, якая выдадзена "Архівам Найноўшай Гісторыі" пры грамадскім аб'яднанні "Дыярыуш", — напамін пра трагічныя гады палітычных рэпрэсій, помнік ахвярам сталінізму. З дапамогай архіваў КДБ Рэспублікі Беларусь і ФСБ Расійскай Федэрацыі даследчык і укладальнік "Індэкса" І. Кузняцоў вяртае беларускай гісторыі 1261 прозвішча ураджэнцаў Беларусі розных нацыянальнасцяў, якія, у асноўным, былі расстраляныя па даносах і прысудах сталінскіх "троек".**

**Акрамя мартыралогу бязвінных ахвяр, сучаснаму чытачу прапануецца азнаёміцца з вытрымкамі з сакрэтных дакументаў тых часоў, у прыватнасці, з пастановай "О фашистско-повстанческой, диверсионной, шпионской и террористической деятельности польской разведки на территории СССР" ад 13.08.1937 г., на падставе якой праводзіліся масавыя рэпрэсіі ураджэнцаў Беларусі, з іншымі дакументамі, што стваралі "юрыдычную базу" для вынішчэння людзей розных нацыянальнасцяў. Ёсць у кнізе і дакументы, якія тычацца рэабілітацыі ахвяраў сталінскіх чыстак.**

**Нагадаем, што "Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920—1950 гг. у Заходняй Сібіры" — важкі крок у аднаўленні справядлівасці да бязвінна пацярпеўшых. Але не апошні. "Архіў Найноўшай Гісторыі" абяцае працяг гэтай важнай працы па аднаўленні справядлівасці да ахвяраў сталінскіх рэпрэсій.**

**А. МЯЛЬГУЙ**

## На казачнай хвалі

**У Брэсцкім тэатры лялек — "гарачая" пара, самы разгар чарговага тэатральнага сезона. І багацце ды разнастайнасць афішы — лішняе таму пацвярджэнне. Заўсёды поўныя залы збірае вечна неўміручая казка "Чырвоны Каптурок". Асаблівасць спектакля БТЛ у тым, што ён разыгрываецца ў стылістыцы французскага "Тэатра Жака Гіньёля", прычым яго з задавальненнем ужо пaглядзелі не толькі беларускія, але і ўкраінскія, а таксама нямецкія гледачы. А вось берасцейская публіка зноў сустрэлася з любімымі героямі гэтай казкі 10 лютага. Яшчэ праз тыдзень, 17 лютага, у неверагодныя і вясёлыя прыгоды ўцягнуць Цётуху Марыну мышаня Мыцык і кацяня Кыцык у спектаклі "Вось дык Мыцык!" Я. Чапавецкага, а завяршыць рэпертуар гэтага месяца рамантычная "Балада пра белую вішню" С. Клімковіч, у аснове якой — рэальныя падзеі з гісторыі нашай краіны. Таксама ў лютым тэатр маркуе зладзіць прэм'еру паводле казкі "Дзюймовачка", работа над якой у поўным разгары.**

**Не менш цікавым і насычаным абяцае быць і рэпертуар сакавіка. Ужо другога сакавіка на казачны баль добрага настрою і дзіўных пераўвасабленняў запросіць гледачоў бессмяротная "Папялушка", а літаральна праз дзень самыя юныя гледачы патрапяць у незвычайнасць добрай казкі "Маленькая фея" В. Рабадана. Шмат год не зыходзіць са сцэны БТЛ спектакль "Чароўная лямпа Аладзіна" Н. Гернэт. У чароўны свет Усходу, поўны загадкавасці і неверагодных прыгод, можна будзе патрапіць 9 сакавіка. Непасрэдным і мілым выглядае ў берасцейскіх лялечнікаў музычны спектакль "Прынцэса-паскакушка" У. Дворжскага, які будзе дэманстравацца 10 сакавіка. Яшчэ раз акунуцца ў краіну казачнага дзяцінства, якое, на жаль, калі-небудзь зыходзіць ад нас назаўжды, можна будзе 16 сакавіка, паглядзеўшы пастаноўку "Пітэр Пэн" Дж. Бары, створаную сумеснай беларуска-украінскай групай (рэжысёр Л. Папоў, мастак В. Выхадцэўскі).**

**Апошняя прэм'ера тэатра — "Гусі-лебедзі" А. Благінінай. Казка, вядомая многім з дзяцінства, атрымалася густоўнай і цікавай, артысты ж тэатра іграюць у ёй з вялікім захапленнем. А пераканацца ў гэтым можна будзе 17 сакавіка. Практычна на працягу тыдня, з 23 па 27 сакавіка, БТЛ запрашае на спектакль "Сіняя птушка" паводле М. Метэрлінка, які таксама па праве лічыцца адной з найлепшых пастановак тэатра. А ў апошнія два дні першага веснавога месяца на яго сцэне — вялікі казачны мюзікл "Алі-Баба і сорак разбойнікаў" В. Смехава, у якім занятая уся тэатральная трупа.**

**І. Х.**

ДАТЫ

***Памятаю яго з дзяцінства. Вельмі цікавы твар, не падобны ні да каго: глыбокі, разумны погляд, сівыя валасы і вусы, ледзь насупленыя бровы, у сур'ёзных вачах ззяе нікому не вядомая думка. «Гэта Шырма», – з вялікай павагай казала нам маці, і мы з сястрой адчувалі, што да гэтага чалавека трэба ставіцца асабліва. Ужо дарослым прафесіяналам-музыкантам я зразумела, хто ёсць Рыгор Раманавіч Шырма для беларускага народа, для беларускай музыкі.***



# «Дзядзька Рыгор»

ДА 110-годдзя Рыгора ШЫРМЫ

Гэты таленавіты музыка жыў і працаваў у гады цяжкіх палітычных рэжымаў, войн, адмовы ад Бога. Ён працаваў, не шкадуючы сябе, каб зберагчы душу народную — песню.

Яшчэ ў студэнцкія гады Рыгор Шырма пакляўся «нашу простую сяляначку, беларускую народную песню, вывесці ў людзі і зрабіць дамай высокага культурнага свету». На працягу ўсяго жыцця ён збіраў і запісваў народныя песні (абышоў пешкі амаль усю Заходнюю Беларусь), шукаў сярод кампазітараў добрых апрацоўшчыкаў, стварыў Дзяржаўную акадэмічную харавую капэлу і некалькі дзесяцігоддзяў быў яе нястомным кіраўніком. З ім капэла аб'ехала паўсвету. Яе кіраўніка называлі майстрам-чарадзеем.

«Капэла Шырмы» вылучалася непаўторным гучаннем, чысцінёй інтанацыі, магутнай дынамікай, шматлікімі нюансамі. Рэпертуар быў усеахопны: Моцарт, Керубіні, Бетховен, Чайкоўскі, Рахманінаў, Танееў, Мурадэлі, Шабалін, Свірыдаў, Тактакішвілі, усе лепшыя творы беларускіх кампазітараў; песні розных народаў... Але ж, галоўнае, «Капэла Шырмы» паказала ўсяму свету хараство і веліч роднай беларускай песні. Рыгор Раманавіч здзейсніў сваю мару: наша «простая сяляначка» зрабілася «дамай высокага культурнага свету». А «Зорку Венеру», напрыклад, называлі выключным шэдэўрам, якому можа пазайздросціць кожны народ.

Талент Р.Шырмы быў усебаковы. Музыканты памятаюць яго як стваральніка знакамітай капэлы, як фальклорыста-этнографа, як старшыню Саюза кампазітараў Беларусі. А ён быў яшчэ выдатным літаратарам, уваходзіў у Саюз беларускіх пісьменнікаў, з якімі яго звязвала вялікае, шчырае сяброўства. Трэба чытаць іх успаміны пра «дзядзьку Рыгора»!

Народны пісьменнік Іван Шамякін на ўсё жыццё запомніў сваё першае спатканне з капэлай і яе чарадзеем: "Ва ўсім адчувалася пачуццё меры, густу. А вось і ён — сам Шырма... Было ў яго постаці, у яго паставе, у адзенні нешта сапраўды класічнае ў самым высокім разуменні гэтага слова... Стаіўшы дыханне, чакаў я цуд. І ён адбыўся... Спачатку ціха, як здалёк, а потым усё гучней залу запаўняла песня, народная, знаёмая, многа разоў чутая. Але што здарылася? Адбылося нейкае чараўніцтва... Залы не стала, расступіліся сцены, адкрыліся прасторы роднага поля, лес, рака, свяціла сонца, шумеў дождж і здзіўляюча цёплымі хвалямі налятаў незвычайны вецер... І усё гэта разам улівалася ў душу дзівосным бальзамам".

Сам Р.Шырма пакінуў нам шмат цікавых артыкулаў пра кампазітараў, пісьменнікаў, паэтаў, праблемы беларускай культуры і г.д. Сваім публіцыстычным словам ён падтрымаў многіх творцаў, артыстаў, спевакоў. Ці не ён першы заўважыў талент маладога Яўгена Скурко і дапамог яму зрабіцца вядомым паэтам Максімам Танкам! «Дзядзька Рыгор» (гэтак яго клікалі вучні, вяскоўцы, пісьменнікі) зрабіў прадмову да першага зборніка Максіма Танка «На этапах», быў рэдактарам і выдаўцом гэтай кнігі. Яўген Іванавіч сябраваў з Шырмам усё жыццё, называў «хросным бацькам» сваёй паэзіі, пра якога потым напісаў:

*Часам прыслухаюся нясмела.*
*Мне здаецца, зноў я чую спеў*
*Родных рэк, палёў, вятроў і дрэў —*
*Адгалоскі Шырмавай капэлы.*

*Каб яе паслухаць, замірала*
*Усё жывое ад зямлі да зор,*
*Нарач бушаваць пераставала,*
*Бог сцішаў сваіх анёлаў хор.*

*Вось і зноў я спеў капэлы чую.*
*Знаць, няпраўда, што тварэц яе*
*Адышоў, сёння ён жыве,*
*Калі песня шчырая хвалюе.*

Больш за стагоддзе таму на Брэстчыне, у вёсцы Шакуны блізу Пружанаў, у беднай і працавітай сям'і нарадзіўся Рыгор Шырма. Вядома, што ягоны прапрадзед быў прыгонным сталяром, па-майстэрску рабіў разнастайныя драўляныя шырмы. Адсюль і прозвішча. Прадзед Мікіта, дзед Васіль і бацька Раман таксама майстравалі, а за працай любілі спяваць народныя песні.

Рыгорка дапамагаў бацькам з маленства: пасвіў гусей, кароў. Яму дапамагалі матуліны бацькі — баба Агата і дзед Дзям'ян. Прыходзілі з суседняй вёскі да маленькага пастушка, спявалі песні, расказвалі казкі. Дзед навучыў рабіць цудоўныя дудачкі-жалейкі з ліпы, аеру, травы. І сам хлопчык, застаючыся са статкам, спяваў сабе, граў на жалейках, любаваўся прыродай. Можа, тады і станавіўся ён музыкантам?..

З дапамогай «хатняга настаўніка» Рыгор навучыўся чытаць. Але на сямейнай радзе вырашылі не пасылаць яго ў школу, бо трэба было займацца гаспадаркай. Не пагадзіўшыся з такім жыццём, хлопчык збег з хаты. Адшукала яго маці Тадора, пазычыла ў суседзяў 15 капеек (залатоўку) на чарніла і паперу, каб можна было здаць іспыты, і пераканала сям'ю аддаць сына вучыцца.

Вучыўся Рыгор Шырма заўсёды ахвотна і толькі на «пяцёркі». Сябраваў з кнігамі. Пачаў сам рыфмаваць, злучаць вершы з музыкай і спяваць. Пазней, ужо вучнем гарадскога вучылішча, у спецыяльныя сшыткі ён запісваў беларускія песні, якія чуў з маленства. Сшыткі збіраліся з месяца у месяц, з году ў год — пачалася дзейнасць Шырмы-фальклорыста.

Як выдатнік вучобы, ён быў рэкамендаваны рэпетытарам для тых, хто хацеў паступіць у вучылішча. Сам яшчэ вучань, Шырма пачаў зарабляць грошы, і калі з першай палучкі аддаў бацьку пяць рублёў, той радаваўся, як дзіця. Потым выдатніка-выпускніка накіравалі ў Віленскае юнкерскае вучылішча, але ён адмовіўся ад вайсковай кар'еры: марыў настаўнічаць. Скончыў двухгадовыя настаўніцкія курсы, у 1914-м стаў студэнтам Сядлецкага настаўніцкага інстытута. Але з пачаткам першай сусветнай вайны трапіў у армію.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі Шырма выйшаў з вайсковай службы і быў накіраваны ў вёску Навагольскае Варонежскай губерні. Там ён заснаваў 4-гадовую школу другой ступені, там сустрэў будучую жонку — Клаўдзію Іванаўну, настаўніцу матэматыкі. Яны стварылі добрую сям'ю, выхавалі дачку Алену і сына Расціслава. Клаўдзія Іванаўна мела шчырае сэрца, цудоўны голас і спявала ў хоры, які стварыў Рыгор Раманавіч.

Дарэчы, усюды, дзе даводзілася працаваць Шырму, ён ствараў харавыя гурткі, аб'ядноўваў моладзь. Яго настаўніцкая дзейнасць заўсёды была побач з музычнай і культурна-асветніцкай. У Пружанах ён сабраў народны хор, які хутка набыў папулярнасць і пачаў «гастраляваць», набыўшы славу аж да Вільні. Адтуль прыехаў дэпутат польскага сейма беларус-грамадовец Браніслаў Тарашкевіч і запрасіў Р.Шырму ў Вільню — працаваць настаўнікам гімназіі.

Ён быў і выдатным настаўнікам, і выхавацелем у інтэрнаце. Выкладаў у Віленскай гімназіі спевы, літаратуру, на грамадскіх асновах кіраваў харавым гурт-







ком, стварыў студэнцкі універсітэцкі хор, рэпетыцыі якога заўсёды праводзіў са скрыпкай. Сам добра іграў на ёй. Напэўна, цяжка знайсці хормайстра, які б ладзіў «строй» свайго хору пры дапамозе скрыпкі!

Усюды, дзе працаваў Рыгор Раманавіч, ён займаўся грамадскай і культурна-асветніцкай працай; яго імя звязана з дзейнасцю Таварыства беларускай школы ў цяжкія для нашай мовы і нацыянальнай самабытнасці часы. Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР Р.Шырма трапіў у Беласток, дзе сфарміраваў і ўзначаліў Беларускі *ансамбль песні і танца (1940 г.)*. Менавіта з гэтага ансамбля праз 10 гадоў атрымаўся Дзяржаўны хор БССР, а яшчэ праз пяць — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла, якая сёння носіць імя свайго стваральніка.



Пасляваенная праца Р.Шырмы добра вядомая творчай інтэлігенцыі нашай краіны. Ён ва ўжо сталым узросце паспяваў многа: кіраваў капэлай; рабіў запісы на Беларускім, Украінскім і Усесаюзным радыё; сабраў 12 тамоў беларускіх народных песень; выступаў у друку; клапаціўся пра стварэннне харавых школ на Беларусі (вядомы яго артыкул «Заспявае *школа — заспявае народ*»); вёў дэпутацкую працу, узначальваў праўленне Саюза кампазітараў...

Шматгранная плённая дзейнасць Рыгора Раманавіча Шырмы — гэта наша гістарычная спадчына. На жаль, сёння мы не маем ні яго грунтоўнай біяграфіі, ні музея — такога музея, у якім бы адчуваўся дух гэтага «волата, чарадзея песні», у якім была б магчымасць паслухаць запісы, зробленыя майстрам і яго капэлай, у які можна было б прывесці сённяшніх маленькіх харыстаў і распавесці пра іх музычнага прадзеда.

Беларусь багатая таленавітымі цікавымі людзьмі, душы якіх ззяюць зоркамі. Наша справа — быць добрымі «астраномамі», ведаць свае зоркі і берагчы ў памяці тыя, што ўзнесліся ў вечнасць.

Гучыць Акадэмічная капэла імя Р.Шырмы — ззяе зорка «дзядзькі Рыгора». Распавесці б пра гэтую зорку нашчадкам...

**Вольга СІЗКО-ГАБРЫЕЛЯН, канцэртмайстар і выкладчык Беларускай акадэміі музыкі**

*Фота з архіва аўтара і рэдакцыі*

*На здымках: народны артыст СССР Р.Шырма; бацька — Раман Васільевіч; М.Танк, Труцько, Р.Шырма; з Пружанскім хорам (1923 г.); з унукам Аляксеем (1966 г.); сярод дзеячаў Заходняй Беларусі (знаёмыя твары М.Танка, кс. С.Глякоўскага, К.Галкоўскага, М.Забэйды-Суміцкага ды інш.).*



ПРЭМ'ЕРЫ

# Жанчына рыцарскіх часоў

«Сцэны з рыцарскіх часоў» — менавіта так ганараваны жанр новага спектакля Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. «Балада пра Бландою» стала новай рэдакцыяй п'есы вядомага драматурга Сяргея Кавалёва. Калісьці яго «Люстэрка Бландоі» ўжо ішло на пляцоўцы былой «Вольнай сцэны» пад назвай «Заложніца кахання».

«Балада пра Бландою» — з адметнага шэрагу «герменеўтычных» п'ес, як вызначае іх сам аўтар, дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філфака БДУ, Сяргей Кавалёў. За аснову гэтай п'есы быў узяты беларускі рыцарскі раман «Бава». Але ён стаўся толькі адпраўным пунктам для разважання драматурга над вечнымі праблемамі чалавецтва. Галоўным героем п'есы становіцца не рыцар Бава, а ягоная маці, княгіня Антоніі Бландоя, якая ў рамане толькі ўзгадваецца. Распусніца, забойца мужа — за гэтымі «ярлыкамі» драматург угледзеў няшчасную жанчыну, якая пакутуе ў свеце, дзе валадарыць мужчынскі разлік і дзе няма месца каханню. У пятнаццаць гадоў бацькі выдаюць Бландою за старога нялюбага Гвідона, потым ягоны брат Сімбальда забірае на выхаванне сына (дарэчы, шырока распаўсюджаны ў Сярэднявеччы звычай). Так, муж у яе — моцны ўладар, сын будзе выхаваны сапраўдным ваяром. *Ганарыцца ёсць кім, а каго ж кахаць?* Бландоя, зусім не падобная на бязвольную «ружовую» гераіню, бярэцца перайначыць свой лёс. «Я прыдумаю свае законы, буду жыць па іх», — кажа яна. Але аднойчы парушыўшы грамадскія законы, яна выклікае лавіну жахлівых і непапраўных наступстваў, спыніць якую ўжо не ў стане.

Даць Бландоі другое сцэнічнае жыццё ўзялася штатны рэжысёр РТБД Уладзіслава Паржэцкая. Малады рэжысёр спрабуе перадаць пачуцці гераіні праз пластыку і харэаграфію, але гэтыя элементы ніяк не хочуць упісвацца ў тканіну спектакля. Яны не тлумачаць, а часцей дубліруюць перажыванні Бландоі. Паказальная ў гэтым плане апошняя сцэна зняволення асуджанай на смерць галоўнай гераіні. Бландоя перастае мітусіцца па сцэне, гаварыць пачынаюць твар, вочы, пяшчотныя рукі — усё гэта выклікае сапраўдны ўзрыў глядацкага спачування і суперажывання. Але праца над спектаклем працягваецца і пасля прэм'еры, рэжысёр удасканальвае мізансцэны, працуе над асобнымі вобразамі, і ёсць спадзяванні, што наступныя гледачы ўбачаць ужо больш цэласную і гарманічна пабудаваную «Баладу...».

Мастак Вольга Грыцаева, афармляючы сцэну і апранаючы акцёраў, прытрымлівалася аскетызму. Доўгія вертыкальныя палосы тканіны, падсвечаныя злавеснай чырванню, і свечкі на авансцэне ствараюць атмасферу змрочнага Сярэднявечча, якая ўздзейнічае не канкрэтыкай рэквізіту, а сімволікай колеру. Чорны, белы, чырвоны — спалучэнне, упадабанае многімі рэжысёрамі і мастакамі. У гэты класічны трохкутнік Вольга Грыцаева ўносіць яшчэ адзін кампанент — шэры колер касцюмаў рыцарства, што сімвалізуе халаднасць і «металічнасць» мужчынскага свету. Але не вее цеплынёй і ад Бландоі, якая чамусьці ўвогуле не мяняе белую сукенку на працягу тых пятнаццаці гадоў, што паказаны ў п'есе.

Рыцарскія часы... Высакародныя ваяры без страху і дакору, чый меч не ведае спакою. Як спраўдзіць гэтыя глядацкія чаканні? Вядома, ніхто не патрабуе ад акцёраў узорнага валодання сярэднявечнай зброяй. У свой час ТЮГаўскі рэжысёр Андрэй Андросік знайшоў выдатнае рашэнне гэтай праблемы, запрасіўшы да ўдзелу ў таксама гістарычнай «Палачанцы» хлопцаў са школы баявых майстэрстваў «Тай-Пін». У «Баладзе...» рэжысёр вырашыла падаць бой у рэалістычнай манеры і... праіграла, нават нягледзячы на намаганні спартыўнага Ігара Сігава, які непасрэдна займаўся сцэнічным боем. Адчувальны і недахоп у трупе акцёраў-мужчын. А ў выніку — некалькі вялых стычак у закутках сцэны і асцярога перад мячом у вачах мужнага рыцарства, якую не хавае нават прытушанае святло. Між тым зараз у Мінску існуе не менш дзесятка рыцарскіх клубаў, якія «прафесійна» займаюцца пастановачнымі баямі, вырабляюць сапраўдныя даспехі, зброю і з задавальненнем усё гэта дэманструюць. Ад супрацоўніцтва з імі спектакль відавочна б выйграў.

Пяць вялікіх мужчынскіх роляў, яшчэ колькі «дэманаў і рыцараў», і толькі адна жаночая роля — не лепшы расклад для маладой і не да канца збалансаванай трупы РТБД. З гэтай прычыны атрымалася, што партнёрам вядучай актрысы тэатра Людмілы Сідаркевіч стаўся малады Кастусь Міхаленка — добры характарны акцёр, але ніяк не герой-палюбоўнік, хай сабе і адмоўны. Чым выклікана *рамантычнае каханне* да яго з боку Бландоі, што прымусіла яе адважыцца на забойства сына — патлумачыць цяжка. Затое дуэт Людмілы Сідаркевіч (Бландоя) і Ігара Сігава (закаханы ў яе прыдворны Рычарда) у спектаклі яшчэ раз паказаў свой высокі клас. Зладжанасць, пачуццёвасць, дакладнасць і мэтазгоднасць кожнага душэўнага і фізічнага руху — усяму гэтаму вераш без ваганняў. З маладых спадабаліся ўжо ўзгаданы Кастусь Міхаленка (Дадон, князь Маганца) — нават у неадпаведным амплуа ён паказаў добры тэмп, пластычнасць і наяўнасць індывідуальнасці — і Раман Кроман, што сапраўды здзівіў шчырасцю і лірызмам.

Тэатр наогул ужо не адно стагоддзе заняты пытаннем: «Што трэба кожнаму чалавеку?» Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі адказвае так — кахаць і быць каханым. Нягледзячы на пэўную недасканаласць формы, рэжысёру і акцёрам удалося выклікаць непадробнае суперажыванне з жанчынай «рыцарскіх часоў».

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота М. ПРУПАСА*





## ЧАСАПІС

# Квецень рамонкавай паляны

### ЛЮДМІЛЕ ХЕЙДАРАВАЙ — 50

**Перафразіраваўшы вядомага пісьменніка, смела можна сказаць, што паэзіі — усе прафесіі падуладны. Вядома, пры ўмове, калі той, хто бярэцца за напісанне вершаў, валодае талентам. Пацвярджэнне таму — жыццёвы і творчы лёс Людмілы Хейдаравай.**

**Нарадзілася ў пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёна. Скончыла факультэт прыкладной матэматыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, атрымаўшы прафесію, пры ўсведамленні: "все работы хороши, выбирай на вкус", тым не менш далёка не паэтычную. Працавала старшым інжынерам навукова-даследчага інстытута электронных вылічальных машын, а затым вядучым канструктарам Беларускага навукова-даследчага і праектна-тэхналагічнага інстытута арганізацыі і кіравання будаўніцтвам пры Дзяржбудзе БССР, а ў 1985—1987 гадах была вядучым інжынерам Мінскага навукова-даследчага праектнага інстытута.**

**Ды пры ўсім мела душу паэтычную, пісала вершы. Спачатку, як і многія, для сябе. Іншая справа, што гэтае "для сябе", у параўнанні з іншымі, цягнулася больш. Але пачатак працы вядучым канструктарам стаў і пачаткам літаратурнай біяграфіі. У 1980 годзе на старонках часопіса "Маладосць" была змешчана першая нізка вершаў Л. Хейдаравай, тады яшчэ Л. Паўлікавай, а праз пяць гадоў выйшла і першая кніга паэзіі з прыгожай назвай "Адведзіны рамонкавай паляны". Затым з'явілася другая — "Тваё святло" (1988), паэма-казка "Можна і Нельга" (1987). А на вокладцы кнігі паэзіі "Купанне ў росах" ужо значылася: "Людміла Хейдарава".**

**Шлях яе ў паэзію быў імклівы. Тыя, хто ў свой час пазнаёміўся з першымі творамі паэтэсы, здзіўляўся, наколькі па-майстэрску яны напісаны, якая глыбокая думка закладзена ў аснову. Прываблівая і лірычная гераіня, так не падобная на іншых. Са сваім поглядам на жыццё, з уласным стаўленнем да таго, што адбываецца ў ім. З жаданнем разабрацца не толькі ў самой сабе, а і ў тым, хто мы, адкуль мы.**

**У гэтым сэнсе характэрны верш "Беларусы", напісаны яшчэ ў 1979 годзе:**

*Пачэсна дзялілі з зямлёй цяжар —*
*Вырасціць хлеб златавусы,*
*Таму з пачцівасцю: "Гаспадар" —*
*Зваў беларус беларуса.*

*Ды хлеб, здабыты сялянскай рукой,*
*Знатны засек няволіў,*
*І толькі бой заставаўся свой,*
*І толькі гнеў заставаўся свой,*
*І толькі спеў заставаўся свой —*
*Насеннем бунтоўнай волі.*

*На ростанях двух грымотных вякоў*
*Зямля заспявала ўголас:*
*Насустрач жыццю прарос з акоў*
*Песняй зямлі — Колас.*

*...За рунню рунь набіраецца сіл —*
*Краю рунець бясконца!*
*...Да сонца цягнуцца каласы,*
*Промні зямлі — да сонца.*

**Напісана новая кніга паэзіі — "Ласкавы анёл". Гатова і кніга апавяданняў — "Мае сабакі". О, гэтыя назвы зборнікаў! Яны ў Л. Хейдаравай заўсёды нечаканыя, а калі пазнаёмішся з творамі, дык нязменна нясуць і важкую сэнсавую нагрузку, самі па сабе ўжо шмат гаворачы... А "яшчэ ў характары пісьменніцы, — як сведчыць аўтар юбілейнай нататкі пра Л. Хейдараву, змешчанай у адрыўным календары "Родны край" за сёлетні год на лістку за 10 лютага, Я. Прыхільны, — усё адметнае цягнуць на беларускую глебу. — а раптам прыжывецца? Зацікавілася ў свой час астралагічнай навукай халдзеяў — калі ласка, маем беларускую нізку санетаў "Вянок Задыяка". Захапіла яе кітайская філасофія іцзін — стварыла кнігу іцзін-секстэтаў "Вечаровае веча". На чарзе знаёмства чытача з яе, думаецца захапляльным гістарычна-прыгодніцкім раманам "Князёўна Дарута", аснову якога складаюць паданні родных мясцін".**

**Творчы партрэт Л. Хейдаравай будзе няпоўным, калі не прыгадаць яе пераклады асобных твораў Міхаіла Лермантава, Марыны Цвятаевай, Барыса Пастарнака, Анны Ахматавай, а таксама шэрагу іншых, і не толькі рускіх, а і ўкраінскіх паэтаў на беларускую мову. Нарэшце, шмат зроблена па прапагандзе беларускай літаратуры падчас працы на Беларускім тэлебачанні — з 1987 года — старшым рэдактарам, а з 1990 — намеснікам галоўнага рэдактара літаратурна-драматычнай рэдакцыі. Рабілася гэта з нязменнай улюбёнасцю ў роднае слова, з тым паэтычным настроем, які сам па сабе з'яўляецца зарукай поспеху.**

**З поўднем веку, шаноўная Людміла Фёдараўна! Няхай ваша рамонкавая паляна ў літаратуры заўсёды будзе багатай кветкамі!**

**Андрэй ВОЛАК**

ВІНШУЕМ!

# У роднае слова ўлюбёны

Споўнілася 70 год беларускаму мовазнаўцу, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Івану Якаўлевічу Яшкіну. Калі паглядзець на навуковую накіраванасць інтарэсаў мовазнаўцы, можа паказацца, што ён раскідваецца: дыялекталогія, лінгвагеаграфія, лексікаграфія і лексікалогія, гісторыя беларускай літаратурнай мовы, тэрміналогія, анамастыка, тапаніміка, гідранімія, айканімія, сацыялінгвістыка. А ў дадатак яшчэ этнаграфія, фалькларыстыка, краязнаўства. Нічога сабе абсяг! І тым не меней ва ўсіх названых навуковых напрамках ёсць прыкметная часцінка яго працы. А ўсё нарадзілася з любві да роднага слова.

Захапленне, якое стала сэнсам жыцця, пачалося паўстагоддзя назад, калі юнак набываў грунтоўныя веды ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Там пад кіраўніцтвам вопытных мовазнаўцаў П. Юргелевіча і А. Юрэвіча зараджалася яго імкненне высветліць вытокі роднага слова, прасачыць яго жыццё ў прасторы і часе, пранікнуць у таямніцы народнай мовы.

Адчуўшы, што ведаў недастаткова, навапечаны настаўнік адразу паступае ў аспірантуру Мінскага педагагічнага інстытута, узмоцнена працуе над вывучэннем розных аспектаў гаворак роднай Слаўгарадчыны.

Пасля завяршэння вучобы маладога спецыяліста накіравалі ў Полацкі пafterінстытут. Там на пасадзе старшага выкладчыка ён чытаў курсы беларускай дыялекталогіі, гістарычнай граматыкі, гісторыі беларускай літаратурнай мовы. А са жніўня 1959 года амаль сорак гадоў працаваў у Інстытуце мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

У 1971 годзе выходзіць з друку навуковая праца І. Яшкіна "Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія". Тут пададзены мясцовыя геаграфічныя назвы, якія вызначаюць марфалогію зямлі, гідралагічныя асаблівасці вадаёмаў, раслінныя асацыяцыі і ландшафт.

У манаграфіі "Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. Фанетыка" (1976) І. Яшкін на багатым фактычным матэрыяле паказаў асаблівасці фанетычных сістэм усходнебеларускіх сярэднесожскіх гаворак, іх узаемасувязь і ўзаемадзеянне з суседнімі беларускімі, рускімі і ўкраінскімі гаворкамі. А праз чатыры гады выйшаў працяг гэтай працы "Узаемадзеянне рознадыялектных сістэм. Марфалогія. Сінтаксіс".

Малады вучоны прыняў актыўны ўдзел у стварэнні "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы". Яго матэрыялы ў ім склалі больш за дваццаць аўтарскіх аркушаў, гэта каля 4500 слоўнікавых артыкулаў.

Шмат часу аддаў І. Яшкін падрыхтоўцы пяцітомнага "Тураўскага слоўніка", які заняў належнае месца ў дыялекталагічнай працы беларускіх мовазнаўцаў.

Актыўна ўдзельнічаў І. Яшкін у збіранні матэрыялаў і распрацоўцы навуковых тэм для "Лінгвістычнага атласа Еўропы", напісаў даследаванні "Дыстрыбуцыя галосных", "Дыстрыбуцыя зычных". Для працы "Усходнеславянскія ізаглосы" падрыхтаваў лінгвістычныя карты па фанетыцы і лексіцы, напісаў некалькі даследаванняў. Не абышоў увагай шырокую тэму "Вывучэнне беларускіх, літоўскіх, польскіх і рускіх гаворак на тэрыторыі ўзаемадзеяння балтыйскіх і славянскіх моў". Шмат увагі ўдзяліў вучоны збору матэрыялаў для "Слоўніка гаворак паўднёва-заходняй Віцебшчыны". Запісаў каля сямі тысяч мясцовых слоў у трыццаці населеных пунктах. Не змог ён абысці ўвагай мікалогіі (вывучэнне грыбоў). У 1986 годзе сумесна з Г. Сяржанінай выдаў даследаванне "Грыбы", а ў 1995 годзе з-пад яго пяра выйшла арыгінальная кніга "Грыбы ў традыцыйнай беларускай кухні".

Вяршыняй навуковай дзейнасці І. Яшкіна з'явіўся ўдзел у выданні пяцітомнага "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак" (1993—1998). Вялікую працу выканаў ён па арганізацыі і ажыццяўленні ўсяго выдання. Неаднаразова выязджаў у экспедыцыі, укладаў карты, пісаў каментарыі, складаў спісы, індэксы, рэдагаваў падрыхтаваныя матэрыялы.



Па навуковай і практычнай каштоўнасці атлас з'яўляецца унікальным выданнем у славянскім свеце. У ім найбольш поўна зафіксавана народная мова з усёй тэрыторыі Беларусі.

Істотную дапамогу аказаў І. Яшкін складальнікам гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць. Слаўгарадскі раён". Ім напісана гісторыя старажытнага Прапойска, даследавана паходжанне назвы. Цікавы яго матэрыял пра прапойскае староства, пра этнічную супольнасць радзімічы, мясцовыя моўныя скарбы. Ім складзены падраздзел "З гісторыі населеных пунктаў Слаўгарадчыны". А іх нямала — 375. І пра кожную вёску, вёсачку, пасёлак сказана нешта сваё, адметнае.

Усяго І. Яшкіным надрукавана каля 120 прац. Здавалася б, можна і адпачыць. Але такі стан Івану Якаўлевічу не па душы. Цяпер ён працуе ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Францішка Скарыны, у тэрміналагічным сектары. Значыць, будуць новыя знаходкі, прапановы, удакладненні. Такі неспакойны характар у юбіляра.

**Георгій ЮРЧАНКА**

# ВАСІЛЕВІЦКІЯ МАНАЛОГІ НА "ТРАСЯНЦЫ"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

«Мама, хадзем!»

А я кажу:

«Не, сынок, прадзяржыся, а можа, й паедзеш. Раз ета мука, я скарэй пайду да табе хоць каржа спяку».

Прышла дадому да скарэй вады паставіла, да закіпяціла, да заціркі здаровы чыгун наварыла, да напякла етых каржоў яму – нішчымных, з соллю і з вадою. Штук шэсць спякла на дарогу да Ленінграда.

Прышоў ён, смяецца і радуецца:

«Мамка, ета табе Бог даў, я знаю, ніхто табе болей не дасць».

І так я адправіла тое дзіця ў Ленінград.

Мукі тае пуда паўтара было. Я палавіну адсыпала і кажу дзецям:

«Памром, а есці не будам! К Вялікадню будзе, на Паску!»

Схавала ету муку. І хлопец прыехаў, і ўсё благапалучна, і ўсё добра.

Дажылі да Вялікадня. Мой Шура сабірае таварышаў на Усяночную. Яны ноч гуляюць па сялу, і к нам заходзяць. І вот ужо людзі з царквы выйшлі, ужо развідняцца стала. Етыя хлопцы ўжо дадому сабіраюцца. А я заплакала да кажу:

«Нет, дзеткі, не пойдзеце дадому, у нас будзем разгаўляцца. У мяне й бутылка гарэлкі е!»

(А я купіла бутылку гарэлкі, нехта даў і сала крошачку, дак я й пасвяціць узяла, і хлеба к Вялікадню разжылiся).

Хлопцы адзін на аднаго пагледзелі да паселі за стол. Я ім паналівала па чарцы, булку паклала, дак яны ўдзіўляюцца: няма ж нідзе етай булкі...

Дак разгавеліся.

І плакала я, усё ўрэмя плакала! І ў званы звоняць, а я плачу, і «Хрыстос васкрэс!», а я плачу. І хрэснік Толік Басімовіч прышоў, а я плачу – усё ўрэмя. Я ўжо не па том плакала, што гора мне, а па том, што е Бог на свеце. Е! І над кажным чалавекам е свая судзьба. І Гасподзь дае ўсё кажнаму добраму чалавеку. А не етым людзям, каторыя толькі знаюць паганае, толькі знаюць асудак, толькі сабе панімаюць, а на другога не абрашчаюць ўнімання, беднаты не бачаць, нічыйго гора не прызнаюць.

Дак і я ж грэшная, і ў мяне е сваё гора..

## Хадоска

Унь, унь, пабач у вакно, ета тая, што я табе расказвала, – Хадоска. От ты думаеш, куды яна йдзе аж з Брылёў? На пошту, па пенсію! Яе ўжо й паштальёнка ведае: як носіць пенсію, дак ёй не нясе. А чаго я буду, кажа, на сваю галаву старацца, яна ж мяне з хаты кійком выганяе ды прыгаворвае:

«Мне твае ногі не трэба, я шчэ й на сваіх дакульгекаю да пошты, так тваю да растак». Матам!

І во – ідзе на пошту. Сама палучыць, распішыцца і пашчытае. А тады йшчэ й пасварыцца:

«Мне ў том месяцы таўсцейшая пачка была!»

Дзеўкі на пошце прывыклі, кажуць: бабушка, не дуры нам галавы.

Дак каб жа яна іх шчытаць умела! Цяперака етыя новыя грошы кожын месяц другія. Я й сама ў магазін пайду, дак, бывае, як атарапенне якое нойдзе: ці мільён даваць, ці тысячу?.. А яна ж, Хадоска етая, увесь век цёмная была. Ну, няразвітая...

Але от скажы ты: няразвітая-няразвітая, а колькі жыве – усе перад ёю на дыбках хадзілі. От як умее чалавек сябе паставіць!

Яна пяць мужыкоў за жызнь пахавала. Скажы каму чужому – не паверыць. Ета ж табе не два, не тры, а – пяць! Да каб красівая, ці якая, а то – ніякая. Недарэка. А мужыкі ў яе былі ўсе як на падбор, адзін у адзін, як дубы! Даўно зямельку параць... А яна во – жыве і ў вус не дзьме.

Усю жызнь у калхозе пратрубіла, нічога не бачыла добрага. І сямейнай долі Бог не судзіў. Мо за свае грахі,а мо за матчыны – хто ета можа ведаць?

Я ў яе раз папытала: чаго ты, кажу, Хадосся, у царкву ніколі не сходзіш, старая ж ужо? Дак не рада была. Ета, кажа, табе самой, так тваю растак, у царкву хадзіць трэба, а ў мяне грахоў нет! І пашла. А я й думаю: як жа нет, як жа нет? Ты ж не за так сабе пяцярых у зямлю закапала, усе ж яны цераз цябе прайшлі, а ты – збокуприпёку? Не, тутака нешта не тое, хай мне Бог даруе.

Ета цяперака ўжо папрывыкалі, а раней усе людзі жахаліся. Хто кажа – яна чары ведае, хто – яна іх патруціла ўсіх. Хто – што! Хведзька Брэдур йшчэ на трэцім яе мужыку, як сталы былі, напіўся і сказануў на ўсю хату:

«За тваё здароўечка, Хадоска-трупавозка!»

Яго за рукі-за ногі і выкінулі з хаты. А ён жа як у ваду глядзеў. Патом і па чацвёртым сталы былі, і па пятым.

У яе ад першага мужыка, Сцяпана, быў сын Максім. Дак ужо пры пятым бацьку, пры Мікіце, ажаніўся, а тады спіўся дай прапаў. І роду не аставіў. А яна як з жалеза была і з мужыкамі, і з людзьмі...

Пасля вайны прыбіўся к ёй некі мужчына з Расіі. А красівы, а вясёлы, а спасобны! І печ складзе, і чобаты падаб'е, і палазы на сані пагне! Дак мала табе – шчэ й на гармоніку йграў. Увечары выйдзе на вуліцу, сядзе на браўно (тады ж усе строіліся) да як зайграе, як запяе:

«Кагда б я меў златыя горы і рэкі, поўныя віна!»

З усяго асяродку сходзіліся слухаць. Тады ж гора было, а ён – пяе! Дак усякі чалавек быў етаму рад. А Хадоска хаця б калі з двара выйшла! Прачыніць калітку дай апазорыць пры людзях:

«Ідзі дадому, п'яніца блатны!»

А ён віду не падасць да як гране прыпеўку:

«Ах, Хадоська мая, жопка цёпленькая, невазможна сматрэць, хачу ручкі пагрэць!»

А яна калiткаю – бразь! А то йшчэ й мацюкнецца. Ён аж учарнее.

Прапетаваўся ён з ёю гады тры. А тады стаў сохнуць, сохнуць і за месяц сышоў на нет! Ета ён быў чацвёрты, Іван.

Ох, было дак было. А тады ж бабы не мацюкаліс. У тое ўрэмя? Што ты, крый Божа!

Ужо цяперака, нядаўна. Іду я ў нядзелю з царквы і даганяю Хадоску. Яе ўжо ў крук сагнула, ты ж бачыў, на кiёк апіраецца, чуць паўзе. Давай, кажу, Хадосся, пасядзім дзе на лавачцы, ты ж упадзеш. Селі. Яна мне й жаліцца:

«Так той праклятый Маньчын бык рогам за рабрыну зачапіў. Каб не той бык, я б роўная хадзіла».

Дак мяне смех разабраў. Ну, думаю, мне семдзесят няма, а ногі не ходзяць, а табе дзевяноста з гакам, дак табе бык вінаваты!

Не, мабуць, ні бык, ні карова так не сагне, як старасць...

От табе й Хадоска-трупавозка.

Усякія бываюць людзі ў Бога. Мо ўсякія і трэба. Цяперака чарнобыль маладых як касой косіць, дай паспіваліся, абы-што робяць... Дак на старога чалавека глядзець радасна. Які б ён ні быў. Думаеш: а мо ета шчэ не канец?

*Васілевічы – Мінск*

# Ён быў аднялюбам...

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА

***У прачулым, цёплым навагоднім віншаванні, якое Эсфір Саламонаўна даслала былым калегам па акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Я.Купалы, ёсць багатае на сэнс словаспалучэнне: «здалёк і нібы зблізку». Чаму «здалёк»? Ды таму, што Эсфір Саламонаўна ўжо даволі доўгі час жыве за морам-акіянам, у далёкім Клiўлендзе... Але памяць чалавечая здольная скарачаць адлегласць, нават калі вымяраецца адлегласць не сотнямі, а тысячамі вёрстаў-кіламетраў. І тады, здавалася б, далёкі беларускі край і людзі старэйшага і маладзейшага веку, з якімі доктар філалагічных навук Э.Гурэвіч шмат гадоў працавала побач, супольна вырашала складаныя літаратурныя праблемы, застаюцца для яе па-ранейшаму блізкімі, дарагімі. А што гэта сапраўды так, сведчаць ейныя паштоўкі, лісты, са зместу якіх бачна, што Эсфір Саламонаўна востра перажывае нягоды і цяжкасці цяперашняга нашага жыцця, глыбока спачувае тым, хто, не шкадуючы сіл, самаахвярна працуе на ніве адраджэння нацыянальнай культуры, беларускай мовы, літаратуры. У лістах часта прыгадвае шматлікія падзеі, здарэнні, якія адкладаліся ў тайніках яе памяці, а найперш успамінае пра канкрэтных людзей, пра тых асоб, з кім калісьці звёў яе лёс на ваенных, а затым і мірных жыццёвых дарогах. «Штрыхі да партрэта» – якраз і ёсць адна са спроб аўтара вярнуцца ў незабыўнае мінулае і выказаць пачуцці ўдзячнасці, павагі выдатнаму беларускаму вучонаму, пісьменніку Навуму Саламонавічу Перкіну, 90-годдзе якога адзначае сёлета літаратурная і навуковая грамадскасць Беларусі. Н.Перкін унёс вялікі ўклад у беларускую літаратурную навуку. Ён быў і таленавітым арганізатарам, настаўнікам моладзі. На яго кнігах выхоўвалася не адно пакаленне літаратуразнаўцаў. Бясспрэчны ўплыў аказаў Н.Перкін і на станаўленне Э.Гурэвіч як таленавітага, удумлівага, праніклівага даследчыка, гісторыка літаратуры і тэкстолага. Талент Эсфір Саламонаўны з асаблівай яскравасцю раскрыўся ў грунтоўных, глыбокіх манаграфіях, прысвечаных складанай, шматаспектнай тэме – тэме вайны: «Пафас гераізму» (1979), «Боль и тревога наши» (1986). Гэтыя кнігі прасякнуты выразным гуманістычным пачуццём, ідэяй абароны чалавека як найвялікшай каштоўнасці свету. Даследуючы ж неабсяжны мацярык, які носіць назву «дзіцячая літаратура», Э.Гурэвіч часта даводзілася ісці па цаліку, шукаць свае падыходы да спасціжэння такое складанай з'явы, як дзеці і вайна: «Беларуская дзіцячая літаратура: 1917–1967» (1970). Гэтыя кнігі і сёння застаюцца, як і шмат гадоў таму, запатрабаванымі.***

**Міхась МУШЫНСКІ**

Пайшоў ужо трэці дзесятак, як няма з намі Навума Саламонавіча Перкіна. З такімі людзьмі, як Атлантыда, адыходзіць цэлае пакаленне. Тыя, хто блізка ведаў Навума Саламонавіча, успамінаюць яго светла, цёпла, удзячна, з любоўю.

Але хуткабежны час бясстрасна ўкарочвае нашу памяць, сціраe малюнкі мінулага, затуманьвае твары людзей, якія былі з намі побач. Па невытлумачальных, загадкавых прычынах нешта высвечваецца ў ёй з незвычайнай яркасцю, быццам бы на кінематаграфічнай плёнцы, нешта, на жаль, безнадзейна канае ў лету, выветрываецца, растае ў дымцы часу. Каб затрымаць гэты разбуральны працэс выветрывання памяці, каб ажывіць вобраз Навума Саламонавіча ў нашым уяўленні, лепш зразумець сакрэт яго абаяльнасці як чалавека, мне захацелася напярэдадні юбілею перачытаць яго аўтабіяграфічныя творы «Я стаў партызанам» і «Хлопчык з мястэчка», выдадзеныя пасмяротна, дзякуючы намаганням і клопатам яго жонкі Соф'і Яфімаўны.

Відаць, у якойсьці ступені можна было б разгледзець, улавіць асобныя праявы аўтарскай асобы і ў даследчых працах, але тут яны, праявы, глыбей схаваны за непарушным ідэалагічным покрывам, што адбівала ілюзіі і блытаніну часу, напоўненага спакусліва-светлай рэвалюцыйнай ідэяй, якая абярнулася на практыцы для многіх горкім і балючым расчараваннем. Пакаленне, да якога належаў Навум Саламонавіч, пакаленне пераможцаў фашызму, амаль усё прайшло праз гэту спакусу.

І вось я зноў сустрэлася з Перкіным-"сочинителем", і штосьці дабавілася да майго ўяўлення пра яго, хоць я разумею, як наіўна прасталінейна рабіць праекцыі з мастацкага тэксту на біяграфічны воблік пісьменніка. З другога боку, няварта ж пярэчыць і таму, што творы шмат могуць сказаць пра іх аўтара. А ў дадзеным выпадку ступень яго самавыяўлення, самараскрыцця настолькі высокая, што міжволі ўспрымаеш герояў і іх прататыпаў шмат у чым паяднана.

На старонках аповесці «Хлопчык з мястэчка» аўтар пераўвасабляецца ў хлопчыка Міхеля, які зоркімі дзіцячымі вачыма ўглядаецца ў пераломныя гістарычныя падзеі – ад першай сусветнай вайны да грамадзянскай. На мяне дыхнула атмасфера невялічкага яўрэйскага мястэчка, якая фарміравала дзіцячую душу Міхеля і закладвала ў яе зерні той рэвалюцыйнай свядомасці, што зрабілася азбукай не аднаго пакалення. А за развагамі Крошына, Еліна, Азаркевіча ў кнізе «Я стаў партызанам» я быццам бы ўбачыла самога Навума Саламонавіча, які па гарачых слядах імкнецца асэнсаваць свой нялёгкі франтавы вопыт, разабрацца ў самім сабе і ў тым, што адбывалася наогул. Я лепш зразумела, чаму Навум Саламонавіч, нягледзячы на вялікую занятасць даследчай працай, вярнуўся да сваіх ваенных запісаў (ён «папісваў», па яго словах, яшчэ ў партызанах), каб уваскрасіць былое, зноў перажыць перажытае. Гэта было яму патрэбна не дзеля выйгрышнага іміджу, а таму, што ён разумеў каласальную вагу падзей вайны для сябе асабіста і чалавецтва наогул. Ён адчуў у сабе патрэбу затрымаць час і здольнасць спалучыць энергію духу і слова. Яму, як чалавеку, які прыйшоў на вайну не хлопчыкам і нават не юнаком, а без малога ў 30 год, з пэўнымі маральнымі прынцыпамі, якога і там, у пекле вайны, у незвычайным душэўным узрушэнні не пакідала талстоўская думка аб самаўдасканаленні, было, відаць, неабходна ўзважыць усе перажытыя падзеі на вагах агульначалавечай маралі. Тым больш, што партызанская вайна, якую ён зведаў поўнай і горкай мерай, давала для гэтага надзвычай багаты матэрыял: яна хавала ў сабе найбольш драматычна вострыя і трагічныя формы адвечнага выбару і адпаведна – розныя формы выяўлення чалавечых магчымасцей у экстрэмальных сітуацыях.

Навум Саламонавіч бачыў не толькі пераможны бок партызанскай вайны, але і яе незвычайную ўнутраную складанасць. Перш за ўсё, як абараніць мясцовае насельніцтва, якое аказалася заложнікам на вайне, ад вялікіх страт? Ці заўсёды апраўданы і непазбежны ахвяры сярод яго? Дзе канчаецца асцярожнасць і пачынаецца баязлівасць? Сродкі, якімі дасягаецца перамога, цана яе, увогуле – цэлы спектр маральна-этычных праблем, што спадарожнічаюць вайне, паўстае перад аўтарам і героямі кнігі. Галоўнае напружанне, асабліва ў аповесці «На раздарожжы», і ствараецца роздумам, развагамі Еліна аб жыцці, абавязку, маральных каштоўнасцях. Кульмінацыя роздумаў героя, яго ўнутранай працы прыпадае на той момант, калі перад ім узнікае дылема – што рабіць пасля партызанства: застацца ў тыле ворага, каб займацца сваёй прафесійнай справай – вучыць студэнтаў, настройваючыся на мірнае жыццё, або вярнуцца на фронт, бо вайна яшчэ не скончылася і канчатковую перамогу над ворагам лепш за ўсё здабыць уласнымі рукамі.

Выбар не такі ўжо і просты, як здаецца, бо ў абодвух выпадках Елін не парушае свой грамадзянскі абавязак, у першым – перад разбураным і спустошаным сваім краем, дзе яго чакаюць студэнты і каханая дзяўчына (наколькі я ведаю, гэты апошні факт – плён пісьменніцкай фантазіі), у другім – перад тымі, хто яшчэ ваюе і кожнае імгненне можа чакаць смерці. Што найбольш маральна ў гэтай сітуацыі? І герой робіць свой, адзіна прымальны для яго выбар – па вышэйшай шкале маральнасці, па гамбургскім ліку – ён выбірае фронт як самае высокае выпрабаванне грамадзянскай годнасці, прыстойнасці чалавека, хоць і разумее, што мера яго карыснасці на фронце, магчыма, будзе меншай, чым у тыле, бо яму не хапае ваеннай вывучкі, умення, а ў сваёй прафесійнасці ён упэўнены. Але з гэтага вынікае толькі адно жорсткае патрабаванне да сябе – усімі сіламі дасягнуць патрэбнага ўмення: «работа, работа і яшчэ раз работа», поўная самааддача. Аўтар паказвае, як, якім шляхам дасягаецца перамога, раскрываючы душэўны стан героя праз унутраныя маналогі, барацьбу думак і пачуццяў – у духу талстоўскай дыялектыкі душы. Ці не праглядвае ў душэўных развагах Еліна сам Навум Саламонавіч з яго вышэйшай патрабавальнасцю і маральным максімалізмам, з яго жыццёвым дэвізам самаўдасканалення?

Франтавік-інтэлігент, у якога паралельна з выкананнем паўсядзённых ваенных абавязкаў адбываецца працэс унутранай працы, – гэты герой кнігі (таксама, як і яго прататып) сцвярджае, што і на вайне, сярод крыві і смерці, гора і адчаю можна працістаяць азвярэласці, жорсткасці, бесчалавечнасці, захаваць і нават умацаваць свае маральныя прынцыпы (вядома, калі яны былі ў чалавека раней), упэўніцца ў найвялікшай каштоўнасці жыцця і чалавечнасці.

Навум Саламонавіч прыйшоў з вайны ўзмужнелым, духоўна загартаваным. Што дапамагло яму застацца самім сабою і супрацьстаяць душэўнаму разбурэнню, якое нясе вайна?

Я думаю, перш за ўсё – той маральны камертон, на які ён заўсёды настройваўся, той патрыятычны ўздым (не пабаюся гэтых зацёртых і скампраметаваных сёння слоў), які быў чыстым, шчырым, незаплямленым і жывым пачуццём у яго (як і ў большасці людзей), бо вайна была сапраўды Вялікая, Айчынная.

Дапамагала – так мне здаецца – і пэўная ўкаранёнасць Навума Саламонавіча ў жыццё, быт, адчуванне трываласці, якія прыходзяць ад умельства рук, майстравітасці, «домовитости». Гэта ішло ў яго з дзяцінства і юнацтва. Інтэлігент у першым пакаленні, ён быў майстра на ўсе рукі: мог падкараціць штаны, зрабіць любую выкрайку, адрамантаваць кран, памыць падлогу, весела папрацаваць на ўборцы бульбы. Не цураўся ніякай «чорнай» працы – пры такой інтэлігенцкай прафесарскай знешнасці, і водгалас гэтага ў кнізе: Азаркевіч – у партызанах змайстраваў адмысловыя цёплыя рукавіцы на зайздрасць сваім аднапалчанам.

Відаць, сваю выратавальную ролю на вайне адыгрывалі і пачуццё гумару, іронія, самаіронія, уласцівыя Навуму Саламонавічу ў жыцці і творчасці. «Калі пачынаю пісаць, не перастаю пакепліваць з сябе. Ды і пішу неяк нязвычна – карава, марудна. Так піша школьнік пасля доўгага лета», – чытаем мы ў аповесці «Я стаў партызанам».

Пішучы свае партызанскія аповесці, Навум Саламонавіч нібы падоўжыў сваю ваенную біяграфію і раскрыў сябе знутры. Тым самым ён яшчэ больш наблізіўся да тых, каму пашчасціла з ім блізка сутыкацца.

Да мяне асабіста ён стаў бліжэй дзякуючы адной біяграфічнай дэталі, што адкрылася мне ў кнізе. Аказалася, нашыя з Навумам Саламонавічам ваенныя шляхі-дарогі перакрыжаваліся яшчэ ў Вязьме, але «судьбы скрещенья» тады не адбылося: мы сустрэліся толькі пасля вайны. Аказалася таксама, што той безыменны камендант г.Вязьмы, які ў 1943 г. дапамог партызанам Еліна (чытай – Навума Саламонавіча) пасля сустрэчы з Чырвонай Арміяй атрымаць прадуктовыя атэстаты, без якіх яны апынуліся з-за недагляду чыноўнікаў, сустрэўся і мне там, але раней, на пачатку 1941, калі я перад самым захопам немцамі горада прыехала туды з Масквы, каб вывезці адтуль паралізаваную маці. Гэты камендант тым часам даў мне выратавальны пропуск у Маскву, якая апынулася на асобным становішчы. У незвычайным напружанні ваеннага, перад здачай, горада ён здолеў адгукнуцца на маю боль і бяду. Колькі такіх «анёлаў-хавальнікаў» было на дарогах вайны!

На жаль, вобраз вяземскага каменданта ў маім уяўленні з часам неяк рассеяўся. Усё перажытае тады злілося ў суцэльны грукатлівы і палаючы кашмар, у якім святлела толькі цёплая аура гэтага надзвычай чулага чалавека. Дзякуючы Навуму Саламонавічу, ён нібы ажыў перада мной і набыў скупыя, але пільна прыкмечаныя аўтарам індывідуальныя рысы: гэта быў рослы, у пагонах палкоўніка ваенны з праніклівым паглядам вачэй. Так! Вочы каменданта – вось што мне цяпер успомнілася, – праз доўгі заслон і завалы памяці. Мастакоўская памяць аўтара абудзіла, уваскрасіла і маю зажухлую быццам бы назаўсёды памяць.

Але, магчыма, усё гэта толькі здаецца мне?

Так ці інакш, бясспрэчна тое, што Навум Саламонавіч, акрамя ўсяго іншага, валодаў і талентам пісьменніка са сваім мастакоўскім поглядам на свет і прыроду, з тонкім слыхам слова. Дазволю сабе прывесці адну толькі характэрную, на мой погляд, мастацкую дэталь: у забітага сына партызанскага камандзіра ногі гімнаста «колеру ранняй арэхавай шкарлупіны»...

І напаследак, на развіцце яшчэ адзін «штрых да партрэта» Навума Саламонавіча: ён быў аднялюб пажыццёвы, што зусім не азначала беднасці, абмежаванасці натуры, як можа здавацца. Наадварот. Гэта было сведчаннем яе незвычайнай цэласнасці, сілы і багацця нерастрачанага ўнутранага пачуцця. Для мяне гэта вельмі рэдкая і прывабная чалавечая каштоўнасць – быццам бы неразменны залаты чырвонец.

**Эсфір ГУРЭВІЧ**

# Врончанка — першы перакладчык Шэкспіра і Міцкевіча

Нядаўна споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння выдатнага рускага геадэзіста і географа, цудоўнага паэта-перакладчыка Міхаіла Паўлавіча Врончанкі (1801—1855). Ён нарадзіўся ў Копысі Магілёўскай губерні (цяпер гарпасёлак у Аршанскім раёне Віцебскай вобласці) у сям'і святара. Скончыўшы Магілёўскую гімназію, Врончанка паступіў на славесны факультэт Маскоўскага універсітэта, але неўзабаве перайшоў на вайсковую службу і быў залічаны ў світу імператара Аляксандра І (верагодна, па пратэкцыі старэйшага брата Фёдара Паўлавіча Врончанкі, рускага дзяржаўнага дзеяча, пазней міністра фінансаў). У 1823 г. прапаршчык М. Врончанка праводзіў трыангуляцыйныя работы на тэрыторыі Віленскай губерні. Гэтая работа яму спадабалася, і ён прымае рашэнне атрымаць грунтоўную адукацыю па астраноміі і геадэзіі ў Дэрптскім універсітэце пад кіраўніцтвам прафесара В. Струве — будучага акадэміка Пецярбургскай акадэміі навук, заснавальніка і першага дырэктара Пулкаўскай абсерваторыі. Пасля заканчэння універсітэта (1827) Врочанка служыў у Пецярбургу пры Ваенным міністэрстве. Ён дасканала валодаў нямецкай, англійскай, французскай і італьянскай мовамі. У сувязі з пачаткам чарговай руска-турэцкай вайны быў накіраваны ў 6-ы пяхотны корпус дзейнай арміі, размешчанай паблізу Канстанцінопаля, для тапаграфічнай падрыхтоўкі тэатраў ваенных дзеянняў на Балканах.

У канцы 1833 г. Врончанка, авалодаўшы да таго часу турэцкай і грэчаскай мовамі, быў накіраваны ў Малую Азію, на тэрыторыю пераможанай Турцыі, для збору ваеннагеаграфічных і статыстычных звестак пра насельніцтва, прамысловасць, гандаль, клімат і прыродныя багацці гэтай амаль не даследаванай у той час краіны. Ён стаў шырока вядомы ў Расіі і Еўропе як географ. У выніку падарожжа па Малой Азіі (1834—1836) апублікаваў геаграфічную манаграфію ў 2-х частках "Обозрение Малой Азии в нынешнем ее состоянии".

У 1845 г. палкоўнік Врончанка стаў адным з 17 членаў-арганізатараў Рускага геаграфічнага таварыства, у лік якіх уваходзілі вядомыя падарожнікі адміралы Ф. Літке і І. Крузенштэрн, акадэмікі К. Бэр і В. Струве. На жаль, падзвіжніцтва М. Врончанкі ў галіне геаграфіі цяпер мала каму вядома. Яго больш ведаюць як першага паэта-перакладчыка Шэкспіра, Гётэ, Байрана, Міцкевіча...

У 1827 г. Врончанка надрукаваў у часопісе "Московский телеграф" пераклады з "Гамлета" Шэкспіра і "Манфрэда" Байрана, праз год апублікаваў у друку свой першы поўны пераклад "Гамлета", які выклікаў захопленыя водгукі з боку В. Бялінскага. Врончанка паставіў перад сабой задачу выканаць пераклад гэтага дзівоснага твора так, каб зрабіць па магчымасці дакладную яго копію на рускай мове, захаваўшы "красоты подлинника". Ён добра валодаў усімі асноўнымі еўрапейскімі мовамі і сам з юных гадоў захапляўся паэзіяй. Бялінскі, характарызуючы Врончанку як "чалавека, які страсна любіць Шэкспіра і валодае талентам паэзіі", адзначыў вартасці яго перакладу. "Усе лірычныя месцы, у якіх Врончанка цалкам перадаў магутную паэзію Шэкспіра, даказваюць нам, што пераклад Шэкспіра — яго справа... Што ж да песень Афеліі і ўвогуле ўсіх лірычных месцаў, то, паўтараем, Врончанка перадаў іх не толькі паэтычна, а і па-мастацку".



У "Невском альманахе на 1828 год" быў апублікаваны пераклад "Манфрэда" Байрана. У тым жа годзе быў надрукаваны пераклад "Дзядоў" Міцкевіча. А. Пушкін і В. Жукоўскі, А. Грыбаедаў і П. Вяземскі ўпершыню даведаліся і па годнасці ацанілі Адама Міцкевіча дзякуючы гэтаму перакладу Врончанкі.

Перыяд знаходжання Врончанкі на Балканах таксама стаўся прадуктыўным. У 1831 г. ён надрукаваў у "Одесском альманахе" пераклад паэмы Міцкевіча "Конрад Валенрод" і "Сон Сарданапала" з аднайменнай паэмы Байрана, у "Московском телеграфе" (1832) № 20 часткова быў надрукаваны "Кароль Лір" Шэкспіра.

Вярнуўшыся з Малой Азіі, Врончанка закончыў пераклад "Макбета" Шэкспіра і апублікаваў яго ў 1837 г. З рэцэнзій на гэты пераклад асаблівую цікавасць уяўляе водгук акадэміка П. Плятнёва: "Врончанка з поўнай павагай глядзіць на арыгінал і, па магчымасці, ні ў чым ад яго не адступае. Яго ўважлівасць шырыцца да таго, што ён перадае арыгінал з радка ў радок: праца неверагодная, мяркуючы па адрозненні моў англійскай і рускай, з якіх у першай гэтак жа шмат аднаскладовых слоў, як у другой шматскладовых. Сапраўды добры пераклад і не можа быць выкананы без гэтага пашанотнага пачатку. Вялікі талент, як сама прырода, нічога не нараджае без глыбокай значнай думкі".

У 1844 г. дзейнасць перакладчыка дасягнула свайго апагею — ён апублікаваў пераклад "Фаўста" Гётэ і даў падрабязны каментар да гэтай паэмы.

Хутка ён узначаліў трыангуляцыйныя работы на поўдні Расіі, на велізарнай прасторы ад Кішынёва і Адэсы на захадзе да Астрахані на ўсходзе. Праца доўжылася 6 гадоў. Падарваны арганізм ужо не мог змагацца з сухотамі, і ў 1855 годзе Врончанка памёр.

Славуты генерал-маёр пахаваны ў Харкаве. Там, дзе яго напаткала смерць. Ці не варта перанесці яго прах на радзіму — у Копысь, паставіць тут помнік Міхаілу Паўлавічу. Ён гэтага заслужыў усім сваім сумленным жыццём, падзвіжніцтвам у навуцы і літаратурнай дзейнасцю.

**Валерый ЯРМОЛЕНКА**



*Фота Г. ЖЫНКОВА*

***У дзень святога Валянціна,***
***У дзень святочнага цяпла***
***Ты стала для яго адзінай,***
***Як ружа, поўная святла...***

## ПАРОДЫІ

Зінаіда ДУДЗЮК

### Вядомы

Нязгаснай памяццю вядомы
Да блізкіх крочу я ляскоў.

**Павел САКОВІЧ**

*Ці я ў дарозе, ці мо дома,*
*Гляджу цікаўна па баках —*
*Ці я каму яшчэ вядомы?*
*Не згасне памяць у вяках?*

*Суседскі певень кукарэкнуў —*
*Мяне вітае! Бач! Здалёк!*
*А быў жа калісь недарэка,*
*І вершы слухаў, бы пянёк.*

*Сцяпанаў Жулік гэтак брэша,*
*На веча кліча ўсіх сабак*
*У гонар мой. Па-чалавечы!*
*Я, можа б, і не здолеў так!*

*І вераб'і кругом цвіркочуць,*
*Разносяць славу пра мяне!*
*"САКОВІЧ!!!" — курачкі сакочуць.*
*Другая й вочкам падміргне!*

Мікола ШАБОВІЧ

### Пляшка на дваіх

Барвяны верасень, як пляшка
З густым настоеным вінам.

**Раіса БАРАВІКОВА**

У сподзе рака зіхацела,
Як пляшкі парожняе цела.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

*Ой, што было, — ўявіць няцяжка,*
*Хоць сёння і здаецца сном.*
*Барвяны верасень і пляшка*
*З густым настоеным вінам.*

*Канечне, мала: два паэты —*
*І толькі пляшка на дваіх.*
*Ну, хоць бы дзве —*
*былі б сюжэты*
*Яшчэ і для наступных кніг!*

### Дзе я толькі не ляжаў

У капе між лазнякоў
Я ляжу,
Як Мікола Лупсякоў.

**Яўген ХВАЛЕЙ**

*Дзе я толькі, сябры, не ляжаў,*
*Як камбайн за сялом жыта жаў:*
*Ля бяроз — бы Уладзімір Мароз,*
*Ля дубкоў — як Алесь Пісьмянкоў.*
*На капе між густых лазнякоў,*
*Як Мікола ляжаў Лупсякоў.*
*Ну, а потым пайшоў я пад дуб,*
*Нібы Шніп, нібы Цвях, нібы Шруб.*
*Сёння зноўку прыклыпаў у лес.*
*Глядзь — ідзе Камароўскі Алесь.*
*— Што ты, Жэня, пад клёнам прылёг?*
*І з работы так рана ты збёг.*
*— Так і гэтак, — кажу-гавару, —*
*Геніяльныя вершы твару.*
*Як радкоў напішу цэлы воз —*
*Дзякуй скажуць і Кмен і Рагоз.*

### Перадумаў

Аслепну, каб стаць Гамерам,
Аглухну — Бетховенам стаць.
Ды застаюся з вачыма.
Са слыхам, як промень прамы.

**Алег ЛОЙКА**

*Нямала жыцця я адмераў,*
*А славы маёй не відаць.*
*Аслепну, каб стаць Гамерам,*
*Аглухну — Бетховенам стаць.*

*А потым падумаю: «Дудкі!»*
*Бо, маючы славы мяхі,*
*Ці шчасця спазнаю мінуткі,*
*Як буду сляпы і глухі?..*

*Таму застаюся з вачыма,*
*І вушы таксама пры мне.*
*Ёсць Козіч, ёсць Тычка, Тычына —*
*Мо, класіка злепяць з мяне.*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК
**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Уладзімір МАРУК —** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-7985
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-8462
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462
Тэл./факс — 284-7965





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2601
Нумар падпісаны ў друк 14.02.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1009

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12